


# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзе...
27 каналаў ад "Рэгіянальнай га...

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ ...НАЛЬНАЯ ...А ГОДА ...15

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

2 лютага 2018 года №5 (1188)


# "У вас – рак", – сказаў доктар і ўсміхнуўся так, што я забылася пра хваробу

**Віляйчанка – пра тое, як не стала лячыць анкалогію капусным лістом.**

старонкі **20-21**

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.



## Выбары: у рэгіёне пераважна без альтэрнатывы

старонка **2**

## Чаму касметычныя крамы эканомяць на пробніках духоў

старонка **18**

# Выбары: у рэгіёне пераважна без альтэрнатывы

**Усяго па краіне зарэгістравалі 22,2 тысячы кандыдатаў у дэпутаты на мясцовыя выбары.**

Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў 28-га склікання прызначаныя на 18 лютага. Агулам размяркуюць крыху больш за 18 тысяч мандатаў.

У Цэнтрвыбаркаме "РГ" патлумачылі, што камісія можа выбіраць спосаб, якім падаць звесткі пра даход кандыдатаў. Можна як публікаваць спіс цалкам у сродках масавай камунікацыі, так і даваць звесткі ў агітацыйных плакатах.

### АБЛАСНЫЯ САВЕТЫ

І ў Мінскі, і ў Гродзенскі абласныя Саветы дэпутатаў выбіраюцца кандыдаты па 60 акругах. У нашым рэгіёне дзесяць акруг на Міншчыне і чатыры на Гродзеншчыне. Сярод акруг Мінскай вобласці нашага рэгіёна толькі ў Валожынскай няма альтэрнатывы. На Гродзеншчыне альтэрнатыва толькі ў Астравецкай акрузе.

У Гродзенскай частцы рэгіёна – пяць кандыдатаў, у Мінскай – 28.

Сярод кандыдатаў Міншчыны – 20 мужчын і восем жанчын, Гродзеншчыны – чацвёра мужчын і адна жанчына.

Сярод кандыдатаў Гродзенскай вобласці нашага рэгіёна – чацвёра беспартыйных, адзін прадстаўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Сярод кандыдатаў Мінскай вобласці – 20 беспартыйных, шэсць прадстаўнікоў Ліберальна-дэмакратычнай партыі, па адным – Камуністычнай і Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

### РАЁННЫЯ САВЕТЫ

#### ВАЛОЖЫН

У Валожынскім раёне 28 выбарчых акруг. Ні на адной з іх няма альтэрнатывы.

Сярод кандыдатаў – 17 мужчын і 11 жанчын, 25 беспартыйных і тры прадстаўніка Камуністычнай партыі.

#### МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім раёне 28 выбарчых акруг. Альтэрнатывы на іх не будзе.

Сярод кандыдатаў – 22 мужчыны і шэсць жанчын. З іх два камуністы і 26 беспартыйных.

#### ВІЛЕЙКА

У Вілейскім раёне 35 выбарчых акруг. З іх альтэрнатыва ёсць на чатырох.

Сярод кандыдатаў – 16 жанчын і 23 мужчыны, трое камуністаў і 36 беспартыйных.

#### МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечанскім раёне 40 выбарчых акруг. Альтэрнатыва ёсць на пяці з іх.

Сярод кандыдатаў – 18 жанчын і 28 мужчын. З іх 42 беспартыйныя, чацвёра прадстаўнікоў Ліберальна-дэмакратычнай партыі і адзін – Партыі працы і справядлівасці.

#### СМАРГОНЬ

У Смаргонскім раёне 27 выбарчых акруг. З іх альтэрнатыва ёсць толькі на адным.

Сярод кандыдатаў – 19 мужчын і дзевяць жанчын. Беспартыйных 27, адзін прадстаўнік партыі БНФ.

#### АШМЯНЫ

У Ашмянскім раёне 27 выбарчых акруг. Альтэрнатывы няма.

Сярод іх дзевяць жанчын і 18 мужчын. Усе беспартыйныя.

#### АСТРАВЕЦ.

У Астравецкім раёне 26 выбарчых участкаў. Адзін з іх альтэрнатыўны.

Сярод кандыдатаў – 10 жанчын, 17 мужчын. З іх адзін сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, астатнія беспартыйныя.

Зоя ХРУЦКАЯ.

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ

**На малюнку размешчаныя імёны ўсіх кандыдатаў у мясцовыя Саветы дэпутатаў нашага рэгіёна – Маладзечанскага, Вілейскага, Валожынскага, Мядзельскага, Смаргонскага, Ашмянскага і Астравецкага раёнаў. Чым большым памерам напісанае імя, тым часцей яно сустракаецца. Самае папулярнае імя сярод кандыдатаў Аляксандр, сустракаецца 15 разоў. Самыя папулярныя жаночыя – Святлана і Наталля. Кожнае сустракаецца ў сямі выпадках.**

## Найменшае беспрацоўе – у Валожынскім, найбольшае – у Маладзечанскім

**Доўгі час найніжэйшы ўзровень беспрацоўя ў рэгіёне фіксаваўся ў Астравецкім раёне.**

Але цяпер з'явіўся новы лідар: у Валожынскім раёне на канец снежня гэты паказчык склаў толькі 0,3% (працу шукаюць 45 чалавек). У Астравецкім і Мядзельскім раёнах – па 0,4 (там адпаведна 47 і 51 беспрацоўны).

Найвышэйшы ўзровень беспрацоўя ў рэгіёне – у Маладзечанскім раёне. Тут узровень зарэгістраванага беспрацоўя склаў 0,8% (486 беспрацоўных). У Вілейскім і Ашмянскім раёнах ён таксама высокі – 0,7% (132 і 85 чалавек).

За год колькасць беспрацоўных, згодна з афіцыйнай статыстыкай, амаль ва ўсіх раёнах зменшылася – напрыклад, у Вілейскім і Маладзечанскім раёнах яна склала крыху больш за 70% да снежня 2016 года.

Як выглядаюць нашы раёны ў разрэзе абласцей? На Міншчыне найбольш высокі ўзровень беспрацоўя – у Маладзечанскім і Слуцкім раёнах (па 0,8% у кожным). А ў тройцы сумных лідараў па беспрацоўі на Гродзеншчыне – Ашмянскі раён.

Аддзел інфармацыі паводле дадзеных галоўных статыстычных упраўленняў Мінскай і Гродзенскай абласцей.

Інфаграфіка "РГ".

**Узровень зарэгістраванага беспрацоўя ў рэгіёне на канец снежня 2017**

| Раён | % |
|---|---|
| Валожынскі | 0.3 |
| Астравецкі | 0.4 |
| Мядзельскі | 0.4 |
| Смаргонскі | 0.5 |
| Ашмянскі | 0.7 |
| Вілейскі | 0.7 |
| Маладзечанскі | 0.8 |







Фота фонду "Інтэракцыя".

Будоўля хостэла ў разгары.
Так будзе выглядаць хостэл пасля рамонту. Мадэль у камп'ютарнай графіцы.

# Хостэл для інвалідаў адчыняць сёлета

**ВАЛОЖЫН**

**Макетамі будучага інтэр'ера ўстановы падзяліліся арганізатары праекта па будаўніцтве цэнтра – фонд "Інтэракцыя". Гэта першы хостэл на Валожыншчыне.**

У райцэнтры працуюць над рэканструкцыяй Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання. У ім з'явіцца турыстычны цэнтр для людзей з інваліднасцю з хостэлам, разлічаным на 20 месцаў.

На ілюстрацыі паказаныя мадэлі ўстановы, зробленыя пры дапамозе камп'ютарнай графікі. У будынку з'явіцца канферэнц-зала з адмысловым абсталяваннем для слабавідушчых і людзей са слабым слыхам.

Разам з адкрыццём цэнтра і хостэла пройдзе фестываль сацыяльнай інтэграцыі.

Турыстычны цэнтр для людзей з інваліднасцю і хостэл будуюць у межах праекта "Валожын без бар'ераў".

Праект фінансуе Еўрапейскі саюз. Ён працуе ад 2015 года, заканчваецца сёлета восенню. Яго мэта – палепшыць сацыяльныя і рэкрэацыйныя магчымасці людзей з інваліднасцю.

**Бюджэт праекта перавышае мільён еўра.**

У яго межах правялі маніторынг каля 300 аб'ектаў інфраструктуры на адаптаванасць для людзей з інваліднасцю. Пасля ацэнкі абралі 30 аб'ектаў, якія палепшаць і зробяць зручнымі для ўсіх.

У 2016 годзе для перавозкі людзей з інваліднасцю ў аддаленыя месцы раёна набылі аўтобус.

У Налібоцкай пушчы ў межах праекта адмыслова ўладкуюць экалагічную і адукацыйную сцяжынку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Трасу М6 Мінск-Гродна плануюць адрамантаваць да лістапада

Пра гэта паведаміў намеснік прэм'ер-міністра **Анатоль Калінін** падчас рабочай паездкі ў Гродзенскую вобласць 26 студзеня.

Будаўніцтва ідзе больш чым на 150 кіламетрах дарогі. 35 з іх у Мінскай вобласці, 120 – у Гродзенскай.

Кошт працы складзе каля 240 мільёнаў долараў, цяпер асвоена 90 мільёнаў долараў.

Віцэ-прэм'ер адзначыў высокую гатоўнасць дарожнага палатна. На 20 кіламетрах уладкавалі раздзяляльную паласу, актыўна працуюць над асфальтабетонным пакрыццём.

Ад сакавіка на 40% участка плануюць адкрыць рух па чатырох палосах.

Калінін заўважыў, што ёсць нязначнае адставанне ад графіка па будаўніцтве інжынерных пабудоў – мастоў і пуцеправодаў. Па яго словах, у верасні адкрыюць рух па першым участку пасля рэканструкцыі цягам 87 кіламетраў. Да лістапада адкрыюць наступны ўчастак у 67 кіламетраў. Такім чынам, траса М6 на ўсім працягу стане чатырохпалоснай.

Чыноўнік лічыць, што новая дарога не толькі палепшыць транспартную сувязь рэгіёна са сталіцай, але і павысіць турыстычны патэнцыял краіны.

У 2019 годзе плануецца пачаць будаўнічыя работы дарогі М3 Мінск-Віцебск.

Калінін заявіў, што цягам трох год палепшаць якасць мясцовых дарог. 50% дарожнага збору застанецца ў рэгіёнах і скарыстаюць менавіта на гэтыя мэты.

**Паводле БелТА.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.01 | 1.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9802 | **1,9803** |
| Еўра | 2,4394 | **2,4618** |
| Злоты, 10 | 5,8668 | **5,9389** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,5118 | **3,5253** |
| Грыўня, 100 | 6,8709 | **7,1131** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 24.01 | 31.01 |
| Еўра | 2.4250/2.4400 | **2.4450/2.4650** |
| Долар ЗША | 1.9790/1.9870 | **1.9680/1.9840** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 24.01 | 31.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,95 | **19,19** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,96** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,90 | **6,95** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | - | **4,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 200 г | 1,00 | **2,15** (400г) |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,00 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 3,99 | **4,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | - | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,55 | **0,60** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 3,99 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 5,95 | **4,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,20 | **2,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,40 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Гранаты, 1 кг | 3,70 | **3,50** |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 2,90 | **3,80** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Ківі, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Лімоны, 1 кг | 3,80 | **3,60** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,20** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 1,89 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | **3,50** |

НАВІНЫ

### У цэнтры Смаргоні п'яны камандзіраваны мачыўся на прахожых

СМАРГОНЬ

Усё адбылося пасярод дня ў адным з дамоў проста ў цэнтры горада. 27-гадовы жыхар Барысава адчыніў акно на другім паверсе трохпавярховікі і пачаў спраўляць патрэбу.

Мінакі зрабілі заўвагу. Той адказаў, што яму ўсё роўна. Маўляў, ён не мясцовы. Ніяк не рэагаваў малады чалавек і на просьбы знаёмага і дзяўчат, што былі ў кампаніі. Яго выхадку знялі на мабільнік. Хтосьці з відавочцаў патэлефанаваў у міліцыю.

Падазраванага затрымалі. Ён працуе ў індывідуальнага прадпрымальніка.

Прыехаў у Смаргонь разам з калегам, каб устанавіць пластыкавыя вокны. У наймалай кватэры выпіваў.

Следчыя вырашаюць пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па артыкуле "Хуліганства".

Паводле Sb.by.

### Скраў у пенсіянеркі грошы і магніцік для капеек

МАЛАДЗЕЧНА

29 студзеня ў РАСК Маладзечна завялі крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж" у адносінах да 49-гадовага жыхара горада.

У кватэру да 69-гадовай маладзечанкі мужчыну прывяла 46-гадовая знаёмая, калі пайшла за дадатковай выпіўкай.

Пакуль гаспадыня выходзіла з пакоя, мужчына выцягнуў з шафы грошы, каля 60 рублёў.

Пазней гаспадыня агледзелася, звярнулася ў міліцыю. У мужчыны знайшлі магніцік для капеек, які таксама належаў пенсіянерцы, распавёў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

### На Вілейшчыне сутыкнуліся "Сітраэн" і "Ман"

ВІЛЕЙКА

28 студзеня каля васьмі гадзін вечара здарылася аварыя на васьмідзясятым кіламетры дарогі Мінск-Мядзел, распавяла **Кацярына Млечка**, намеснік начальніка Вілейскага РАУС.

На закругленні дарогі 24-гадовы кіроўца, жыхар Жодзіна, не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу. Тут ён сутыкнуўся з аўтамабілем "Ман".

У выніку кіроўца "Сітраэна" атрымаў некалькі траўмаў: пераломы сцёгнаў і каленных суставаў, а таксама ўдары.

Па словах **Кацярыны Млечкі**, аварыя адбылася з-за таго, што пацярпелы кіроўца не ўлічыў складаную абстаноўку на дарозе. У той час ішоў мокры снег і былі прыцемкі.

### Трапіў у ДТЗ двойчы за вечар

ВІЛЕЙКА

У нядзелю ўвечары навучэнец Вілейскага дзяржаўнага каледжа з'ехаў у кювет на дарозе на сто трэцім кіламетры трасы Барысаў-Ашмяны, каб пазбегнуць сутыкнення з дзікай жывёлай, што перабягала дарогу. Малады чалавек выйшаў з машыны і пачаў галасаваць, каб калегі-кіроўцы дапамаглі яму выехаць.

Каля 19:20 на дарозе на "Вольве" з паўпрычэпам ехаў жыхар Мінска. На закругленні дарогі ён зачапіў машынай кіроўцу з Вілейкі. У выніку малады чалавек атрымаў удар і пералом ступні.

Па словах Кацярыны Млечкі, намесніка начальніка Вілейскага РАУС, пацярпелы кіроўца ўключыў аварыйныя фары, аднак не паставіў на дарозе аварыйны знак.

Умовы надвор'я таксама былі неспрыяльныя: мокры снег, слізка, цёмны час сутак.

Аксана ЯРАШОНАК.

### Следчы камітэт ладзіць дзень адкрытых дзвярэй

МАЛАДЗЕЧНА

На дзень адкрытых дзвярэй можна патрапіць як у Маладзечне, так і ў Мінску.

1 сакавіка ў 10 гадзін мерапрыемства пачынаецца для маладзечанцаў па адрасе: вуліца Прытыцкага, 23. Усім ахвотным трэба папярэдне запісацца ў старшага следчага Юрыя Багушэвіча па тэлефоне **(80176) 77-24-31** ці звярнуцца ў кабінет 208 Маладзечанскага РАСК.

**24 лютага ў 11 гадзін пачнецца дзень адкрытых дзвярэй у Мінску. Адрас: *вуліца Аранская, 1.***

Паводле паведамлення Маладзечанскага



# Двое дзяцей і іх маці загінулі пры сутыкненні з фурай

ВАЛОЖЫН

**Аварыя адбылася 28 студзеня каля 17 гадзін на 62-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Ашмяны-мяжа Літвы. Мінчанка на аўтамабілі "Опель-Зафіра" ехала ў бок сталіцы.**


Фота uvd.gov.by.

На месцы здарэння.

Яна выехала на сустрэчную паласу, а пры спробе вярнуцца назад на сваю паласу не справілася з кіраваннем, машыну занесла. У выніку аўтамабіль выехаў на сустрэчную, дзе сутыкнуўся са "Сканіяй" з аўтапрычэпам.

У выніку жанчына, 12-гадовы хлопчык і 10-гадовая дзяўчынка ад атрыманых траўмаў памерлі на месцы здарэння.

"Атрымалі цялесныя пашкоджанні і былі шпіталізаваныя ў рэанімацыю яшчэ два малыя пасажыры легкавіка – дзяўчынкі 2012 і 2014 гадоў нараджэння, – распавялі ў ДАІ. – Вядома, што на "Опелі" былі ўсесезонныя шыны. Кіроўца і пасажыры былі прышпіленыя рамянямі бяспекі. Двое пацярпелых дзяцей знаходзіліся ў дзіцячых крэселцах". Стаж загінулай жанчыны-кіроўцы – тры гады.

Паводле БелТА.

## За 20 метраў да пешаходнага перахода ў Лебедзеве мужчыну збіла машына. Насмерць

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 29 студзеня каля 7:30 раніцы.

38-гадовы маладзечанец ехаў па трасе Маладзечна-Смаргонь на працу на аўтамабілі "Рэно-Меган-Сцэнік".

Надвор'е было дрэннае, церушыў дождж, на вуліцы было яшчэ зусім цёмна.

На развілцы на Лебедзева яму трэба было павярнуць налева. Тут насустрач яму рухалася машына.

Маладзечанец патлумачыў, што непадалёк ад аўтобуснага прыпынку з'ехаў на паласу тармажэння, каб бяспечна разміну́цца з сустрэчнай машынай.

І вось калі гэта адбылося, у пяці метрах ад сябе ён убачыў пешахода, які стаяў акурат пасярод паласы з вялізнымі белымі мяхамі. Як высветлілася пазней, у іх былі пустыя бутэлькі.

Кіроўца "Рэно" спрабаваў пазбегнуць сутыкнення, але правай часткай машыны зачапіў пешахода.

Той ад удару ўпаў, мужчына выклікаў "хуткую", аднак праз дзве гадзіны пешаход, мясцовы жыхар, памёр у рэанімацыі.

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу, ДАІ праводзіць праверку.

– Пры гэтым да пешаходнага перахода было не больш за 20 метраў. І ў пешахода не было фліkера, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

Следчыя шукаюць сведак здарэння. Просяць іх патэлефанаваць у РАСК следчаму **Раману Арцем'еву** на нумар **8 (0176) 58-07-84** або звярнуцца ў кабінет 110 Маладзечанскага РАСК на адрас: Маладзечна, Прытыцкага, 23.

Наталля ТУР.

## У вілейскай школе-інтэрнаце правялі акцыю "Разам за бяспеку на дарогах"

ВІЛЕЙКА

26 студзеня ў школе-інтэрнаце ў Вілейцы супрацоўнікі абласнога ДАІ праводзілі віктарыны і дарылі падарункі, прадстаўнікі хакейнай каманды "Дынама-Мінск" "аджыгалі" на школьным стадыёне, а кінолаг з сабакам проста на вачах у дзяцей затрымалі злачынцу. Праўда, затрыманне было паказальным выступленнем.

Пяты год запар акцыю "Разам за бяспеку на дарогах" тут праводзяць кінолагі Вілейскага аддзела дэпартамента аховы, хакеісты "Дынама-Мінск", ДАІ УУС Мінаблвыканкама, прадстаўнікі аднаго з буйных сталічных прадпрыемстваў і супрацоўнікі Вілейскай ДАІ.

– Для дзяцей не важна, што госці займаюць высокія пасады, – падзялілася намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Марыя Дзяруга**. – Яны заўсёды аднолькава хвалююцца перад такімі сустрэчамі, рыхтуюць мастацкія нумары, вучаць правілы дарожнага руху, каб добра паказаць сябе ў тэматычнай віктарыне.

Вучні маглі патрымаць у руках розныя сродкі абароны, якімі карыстаюцца ў сваёй працы супрацоўнікі міліцыі. Штогод наручнікі, рацыі, рупар прыносяць сюды супрацоўнікі Вілейскага РАУС, распавяла выканальнік абавязкаў начальніка інспекцыі па справах непаўналетніх **Дар'я Сцяпук**. Па яе словах, дзеці заўсёды цікавяцца такімі рэчамі.

З актавай залы, дзе быў канцэрт, фільм пра бяспеку і падарункі ад гасцей, гледачы і ўдзельнікі перамясціліся на школьны стадыён. Тут адбыўся хакейны матч паміж камандамі вучняў школы.

Міліцыянер-кінолаг **Руслан Салаўёў** прадэманстраваў, як яго аўчарка Ірма ведае каманды і ўмее затрымліваць злачынцаў. А дзяўчаты-чырлідары пад кіраўніцтвам **Ірыны Новік** паднялі "баявы" дух камандаў сваім танцам.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Дырэктар школы-інтэрната Уладзімір Палубятка атрымлівае падарункі ад прадстаўнікоў ДАІ.**

Аксана ЯРАШОНАК.

# Якія колеры самыя бяспечныя для зімы і чаму флікер неабходны




**Усе мы ведаем, якой пахмурнай і цёмнай бывае беларуская зіма. Адзенне светлых і яркіх колераў не толькі падымае настрой у гэты час, але і робіць больш бяспечным нашы перамяшчэнні па цёмных вуліцах. З якой адлегласці аўтамабілісты заўважаць на ўзбочыне вас ці вашых дзяцей? Прыгадайце колер сваёй курткі і шукайце адказ у інфаграфіцы.**

**Многіх зімовых аварый можна было б пазбегнуць, толькі выбраўшы правільнае адзенне і прымацаваўшы флікер у заўважнае месца.**

Ацаніць, наколькі гэта істотна, можна з інфаграфікі вышэй. Святлоадбівальныя элементы вы можаце абраць любога віду: нашыўкі, бірулькі, налепкі. Для дзяцей прапануюць у выглядзе жывёл і казачных герояў. Яны не толькі не сапсуюць знешні выгляд, але могуць арганічна ў яго ўпісацца, а самае галоўнае – захаваць ваша жыццё.

**Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае, што ў цёмны час сутак неабходна насіць верхнюю вопратку з флікерамі.**

Асабліва просім бацькоў клапаціцца пра бяспеку дзяцей. Да партфеля ці курткі сына ці дачкі абавязкова прымацуйце флікер! Такая простая рэч падорыць вам спакой. Раскажыце маленькім удзельнікам дарожнага руху пра асноўныя правілы бяспечных паводзінаў на дарозе.

Кіроўцы! Зімой ад вас патрабуецца асаблівая пільнасць. Трымайцеся дазволенай хуткасці, будзьце ўважлівыя, асабліва каля населеных пунктаў. У любы момант на дарозе можа апынуцца пешаход, дзеянні якога цяжка прадбачыць.

Паводле Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, адміністрацыйная адказнасць наступная. Пешаход, які ў цёмны час сутак ідзе па дарозе без святлоадбівальнага элемента, можа быць аштрафаваны на суму ад адной да трох базавых велічынь (ад 24,50 рубля да 73,50 рубля). Калі яго парушэнне пацягнула за сабой аварыйную сітуацыю, можа атрымаць штраф ад трох да васьмі базавых (ад 73,50 да 122,50 рубля).

П'янага пешахода на дарозе штрафуюць на суму ад трох да пяці базавых (ад 73,50 да 122,50 рубля).

Калі парушэнне правілаў дарожнага руху прывяло да лёгкіх цялесных пашкоджанняў пацярпелага ці пашкодзіла транспартны сродак, груз, дарожнае пакрыццё, дарожныя і іншыя пабудовы, маёмасць ці калі віноўнік уцёк з месца аварыі, іх чакае штраф ад пяці да 20 базавых велічынь (ад 122,50 да 490 рублёў).

Паважаныя жыхары! Абазначце сябе святлоадбівальнымі элементамі ў цёмны час сутак. Калі заўважылі каля дарогі нецвярозых пешаходаў ці людзей без прытомнасці, тэрмінова паведамляйце па тэлефонах: **(80176) 77-16-56** ці **102.** Ваш званок можа захаваць жыццё.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

## Паштовая скрыня, як у Будапешце, з'явілася ля вілейскага каледжа

**ВІЛЕЙКА**

**Вялікую паштовую скрыню днямі ўстанавілі ля дзяржаўнага каледжа.**

Праўда, ні ліст, ні газету сюды не ўкінеш. Функцыя аб'екта – чыста эстэтычная. Скрыню паставілі для прыгажосці, а ідэю прывезлі з-за мяжы.

– Наш каледж заключыў дагавор з польскай рабочай школай, – распавёў дырэктар установы **Ігар Кіцікаў**. – Па праграме, калі мы кантактуем з выкладчыкамі з Еўрасаюза, то нашым выкладчыкам робяць візы для навучальных падарожжаў. Мы пабывалі ў Парыжы, Амстэрдаме, Празе, Вене.

Калі выкладчыкі і дырэктар гулялі па Будапешце, звярнулі ўвагу, што вуліцы там упрыгожваюць такія паштовыя скрыні. Майстры-зваршчыкі прапанавалі такую зрабіць у сябе.

Па прыездзе з падстаўкі ад старой швейнай машыні і іншага металалому зрабілі скрыню, як у Будапешце. Працаваў над аб'ектам майстар вытворчага навучання **Аляксандр Русак** са сваімі навучэнцамі – будучымі зваршчыкамі.

– Цяпер мы амаль не карыстаемся папяровай поштай, – кажа дырэктар каледжа. – Прывыклі да "электронкі". У каледжы і ў інтэрнаце – усюды ёсць вай-фай. Хай гэта скрыня ўпрыгожвае Вілейку. А гараджане, якія будуць тут гуляць, пабачаць, якія прыгожыя рэчы могуць зрабіць нашы навучэнцы са звычайнага металалому.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Галіне Уладзіміраўне КАВАЛЕВІЧ з Маладзечна**

З юбілеем!



Любая, чароўная, непаўторная жонка і маці!
Сардэчна віншуем з днём нараджэння!
Вельмі ўдзячныя лёсу, што ты ёсць у нас.
Моцнага табе здароўя, дабрабыту, здзяйснення ўсіх мар і спадзяванняў.

**З любоўю, муж і дзеці.**

**Алегу Васільевічу ШЧУКІНУ з Маладзечна**

Вельмі сардэчна віншую, Алег Васільевіч, са святам вашым – днём нараджэння!



Жадаю, каб здароўе трымалася яшчэ па-маладзецку, на радасць вам і ўсім вашым блізкім і знаёмым. А гэта сто лят!

**З павагай, Аляксандр Салагуб.**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс МВ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Опель-Астра Ф, 1994 г.в., па запчастках. Т. Вэлком (8-044) 7413491.
- Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*



- Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- Сітраэн-Ксантыя, 1997 г.в., 1,9 ТД, х/б, ТА -2018, страхоўка, 2800 руб, торг. Т. Вэлком (8-029) 3354804.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***
- Аўто 1997-2002 г.в, дызель, універсал, можна х/б, сабе. Т. Вэлком (8-044) 4791539.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Бараўлянах, 40 кв. м. Т. (8-025) 7214454.
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Рабочай. Пытанні па тэлефоне. Т. (8-029) 8558089.*



- Гараж у ГБК №1 у раёне Зеніта, Вілейка. Плошча 15,1 кв. м. Добрая яма. Падвал. Т. (8-033) 3578878.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Дом жылы ў в. Кавалі Ільянскага с/с Вілейскага раёна. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, лазня, калодзеж. Т. (8-033) 6611354, (8-029) 8525536.*
- Дом у Вязынскім с/с, 12 км ад Маладзечна. Ёсць склеп, калодзеж, участак 0,34 га, агароджаны сеткай. Т. (8-029) 5705728, (8-0176) 736689.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у в.Куранец. Т. (8-029) 7603076.*
- Дом у горадзе Маладзечна. Т. (8-029) 5044099.*
- Участак 10 сотак у Вілейцы. Т. (8-029) 8570225.*

### ЗДАМ

- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*
- Здаецца ў арэнду гараж у ГК № 12 (святло, яма, сцелажы). Т. (8-044) 7905168, (8-029) 5084439.*








## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Мерсэдэс-Спрынтар да 2 тон, 4,2 / 1,75 / 1,65, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. Вэлком (8-029) 1684717, МТС (8-029) 7684717.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Агароджы, дах, навесы, казыркі. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5062372.*



Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце **Rh.by**

- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў "Атлант", ВЕКО, Норд "Індэзіт". ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*







# Чым частавалі на дні судака ў Вілейскім каледжы

ВІЛЕЙКА

**26 студзеня госці Вілейскага дзяржаўнага каледжа маглі пакаштаваць юшку, а таксама судака, смажанага ў кляры. Тут правялі традыцыйны дзень судака.**

Спачатку на вуліцы ўсім гасцям мерапрыемства і выпадковым прахожым прапаноўвалі духмяную юшку. "Бясплатна?" – з недаверам перапытвалі некаторыя.

– Для юшкі ўзялі чатыры кілаграмы судака і крыху ляшча на дзесяць літраў вады, – раскрыла кулінарныя сакрэты майстар вытворчага навучання **Ала Дарошка**. – Спачатку ўкінулі галовы і хрыбетнікі, варылі іх хвілін 20. Потым гэта ўсё дасталі, а ў юшку паклалі рыбнае філе без костак і гародніну і зноў варылі. Па словах майстра, юшка зваранная з аднаго віду рыбы – няправільная.

Педагогі распавялі, што рыбу лавілі супрацоўнікі каледжа ў "Вілейскім моры".

Па традыцыі з пляцоўкі на вуліцы госці перамясціліся ў залу каледжа. Вядучыя ў вобразах піратаў праводзілі конкурсы па прыгатаванні судака ў кляры. Двум камандам – "Шчупачкам" і "Марачкам" – неабходна было пачысціць рыбу і засмажыць яе. Для заўзятараў прадугледзелі свой конкурс – абабраць і парэзаць цыбулю.

Старшынёй журы быў дырэктар каледжа **Ігар Кіцікаў**. Яго вядучыя прадставілі як губернатара востраа Патрэбных людзей. У губернатара быў намеснік. Ім стала начальнік аддзела занятасці райвыканкама, старшыня грамадскага аб'яднання "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка.**

– Прыемна, хай сабе і нядоўгі час, пабыць на такой высокай пасадзе, адзначыла Таццяна Чаславаўна і дадала, што перад такімі конкурсамі спецыяльна нічога не есць. Ведае: у каледжы накормяць смачна.

Пакуль каманды з ліку навучэнцаў-повараў смажылі на кухні судака, вядучыя праводзілі гульні з залам. **Дар'я Русак** і **Марыя Гатауліна** ў марскіх уборах спявалі тэматычныя песні.

Апошнім этапам мерапрыемства стала дэгустацыя стравы. Па выніках конкурсу з адрывам у два балы перамаглі "Шчупачкі".

А падчас фотасесіі кожны мог сфатаграфавацца з русалкай, піратамі або прымераць марскі ўбор.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Таццяна Цітуленка ўпэўненая: у каледжы заўсёды накормяць смачна.




Ігар Кіцікаў узнагароджвае ўдзельнікаў.

# А вы можаце паглядзець на жыццё скрозь прызму казкі?

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладыя выкладчыкі і навучэнцы Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага змаглі гэта зрабіць, калі прынялі ўдзел у міжнародным праекце пад назвай Life through the eyes of a fairytale ("Погляд на жыццё скрозь прызму казкі").**





Арганізацыяй і фінансаваннем сустрэчы займалася некамерцыйная арганізацыя Together Luxembourg з дапамогай праграмы Еўрапейскай камісіі пад назвай Erasmus +.

Together уяўляе сабой вялікую сетку моладзевых арганізацый, якія аб'ядноўваюць людзей з дапамогай розных форм нефармальнай адукацыі.

Together створаная ў многіх краінах ЕС, Гватэмале, краінах Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі. Кожны год міжнародная сетка Together аб'ядноўвае некалькі тысяч чалавек з краін з рознымі культурамі праз міжнародны моладзевы абмен, валанцёрскую працу, семінары, навучальныя курсы. Звыш за 3000 маладых людзей інтэграваныя ў дзейнасць Together.

За гэтым разам праект пад назвай "Погляд на жыццё скрозь прызму казкі" ладзіўся ў горадзе Дыфердандж (Люксембург) ад 15 да 23 студзеня 2018 года. У праекце прынялі ўдзел людзі з шасці краін свету: Азербайджана, Беларусі, Балгарыі, Люксембурга, Расіі і Эстоніі.

Сямідзённая праграма моладзевага абмену праходзіла ў скаўцкім цэнтры Chalet Honsbësch (Дыферданж) і складалася з розных практычных семінараў, майстэрняў, прысвечаных шматлікім відам мастацтва: тэатру, жывапісу, фатаграфіі, музыцы.

Удзельнікі праекта мелі магчымасць абмеркаваць важнасць захавання традыцыйнай культуры і асобую ролю казак у сучасным грамадстве. Практычныя семінары дапаўняліся дыскусіямі, пастаноўкамі казак, выкананнем музыкі. Удзельнікі змаглі рэалізаваць свае ўласныя мэты, распрацаваць і стварыць тэатралізаваныя пастаноўкі. У наш час традыцыйныя казкі не так папулярныя, як новыя і сучасныя, таму гэты абмен – выдатная магчымасць даць новае жыццё старым казкам.

Два дні моладзь з праекта магла правесці ў горадзе Люксембург. Пасля аглядной экскурсіі ўдзельнікі наведалі Еўрапейскі цэнтр, дзіцячы цэнтр Maison relais-foyer Pinocchio, рускі цэнтр навукі і культуры і падлеткавы цэнтр Bonnevoie. У гэтых цэнтрах удзельнікам была дадзеная магчымасць выступіць з музычнай і творчай праграмай. Цесная ўзаемасувязь з мясцовымі жыхарамі дазволіла яшчэ лепш пазнаёміцца з асаблівасцямі жыцця княства.

На пачатку праекта прадстаўнікі ўсіх краін падрыхтавалі "міжкультурную вячэру", дзе ўдзельнікі і мясцовае згуртаванне мелі магчымасць убачыць і паспрабаваць розныя тыповыя прадукты харчавання і напоі краін-удзельніц. Кожны вечар асобная група прадстаўляла сваю краіну з дапамогай розных інтэрактыўных сродкаў: прэзентацыі, відэа, фотаздымкі, гульні, традыцыйныя танцы, песні і г.д. Асаблівацю беларускай групы стала вывучэнне традыцыйных танцаў "Верабей", "Матлёт" і гульні шлюбнай накіраванасці "Цяцерка".

Акрамя танцаў, беларусы на пачатку прэзентацыі заспявалі беларускія народная песні з веснавога цыкла.

А пасля прэзентацыі ўдзельнікам праграмы на вячэру былі прыгатаваныя беларускія дранікі.

Арганізатары праекта адзначылі беларускую дэлегацыю, як самую арганізаваную і крэатыўную. Беларусы з вялікай ахвотай выконвалі ўсе творчыя заданні, дапамагалі па гаспадарчых справах.

Вельмі ўразіла група з Азербайджана: вясёлыя і камунікатыўныя людзі. З першага дня адчувалася, што гэта людзі з сонечнай краіны. Вучылі нас традыцыйным і сучасным азербайджанскім танцам. Песня Ramil Nabran ft Rehim Rehimli & Nadeer – Basdalama настолькі запала ў нашы сэрцы, што стала "неафіцыйным гімнам" сустрэчы.



Падчас гэтага абмену моладзь магла выявіць і параўнаць культурную спадчыну і мастацкія вобразы жыцця шасці краін. Моладзевы абмен "Погляд на жыццё скрозь прызму казкі" аб'яднаў у сабе людзей з розных краін свету, каб з дапамогай традыцыйных казак, якія з'яўляюцца ўнікальнымі носьбітамі культурнай спадчыны, даследаваць асаблівасці краін-удзельніц.

Сустрэчы такога кшталту – гэта захапляльны досвед, дзякуючы якому чалавек здольны фарміраваць свой уласны погляд і жыццёвую пазіцыю. Абмен досведам і інфармацыяй уяўляе сабой незвычайнае багацце для кожнага ўдзельніка, асацыяцыі і групы.

Наша супрацоўніцтва з арганізацыяй Together Luxembourg і праграмай Еўрапейскай камісіі Erasmus + працягваецца. У лютым і маі 2018 года на базе Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага будуць праведзеныя два праекты. Асноўныя тэмы: "Глабальныя праблемы" і "Праблемы бяспекі". Удзел у гэтых праектах будуць прымаць прадстаўнікі розных краін ЕС, Азербайджана, Украіны і Расіі.

**Алеся КАРОЛІК,**
**удзельніца беларускай дэлегацыі.**



**За тыдзень прабывання ў Люксембургу беларуская дэлегацыя частавала сяброў з іншых краін дранікамі і вучыла танцаваць "Ручаёк" і лявоніху. Паказвалі казкі і развучылі "Тры чарапахі".**

**Фота забяспечаныя Алесяй КАРОЛІК.**

# Асабісты досвед. Тры гісторыі беларускіх жанчын, якія нараджалі за мяжой

### Афіцыянт прыносіў у палату меню

**ЛОНДАН, ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ**

**Юлія**, 29 год. Выхоўвае сына Марціна, 1 год і тры месяцы

– У 2013 годзе выйшла замуж, пераехала ў Англію. Там многія будучыя мамы працуюць да апошніх месяцаў цяжарнасці, наведваюць спартыўныя заняткі і курсы па падрыхтоўцы да родаў.

У кожнай цяжарнай ёсць абменная карта, у якую запісваюць аналізы, агляды. Туды ж парадзіха піша пажаданні па родах: уключыць музыку, запаліць духмяныя свечкі... На ўлік па цяжарнасці становяцца ў 10-12 тыдняў. Калі ўсё добра, жанчына назіраецца ў акушэркі, калі праблемы – у доктара. Мяне назірала акушэрка. За ўсю цяжарнасць яна ні разу не глядзела мяне на крэсле.

Дактары лічаць, калі арганізм не прымае плод, значыць, магчымая паталогія, таму да 20 тыдняў цяжарнасць не захоўваюць. У дэкрэтны адпачынак можна ісці на шостым месяцы. Я пайшла амаль на восьмым. "Дэкрэт" доўжыцца, пакуль дзіцяці не споўніцца амаль год. Працоўнае месца захоўваецца на ўвесь тэрмін "дэкрэту". Першыя паўтара месяца плацяць 90% ад заробку, а далей па 140 фунтаў (160 еўра) на тыдзень.

Месца родаў выбіраюць загадзя і паведамляюць у шпіталь, радзільны цэнтр або дамаўляюцца з акушэркай пра хатнія роды. У радзільных цэнтрах працуюць толькі акушэркі, немагчыма зрабіць анестэзію і іншыя ўмяшанні. Такія цэнтры рэкамендуюць жанчынам з нізкай рызыкай ускладненняў. Радзільнае аддзяленне ў бальніцы – аналаг беларускай радзільні.

Я нараджала ў бальніцы. На родах дазвалялі прысутнічаць яшчэ двум блізкім людзям. Некаторыя просяць мам, сяброВак, а я была з мужам. Ён падаваў ваду, нагадваў дыхаць. Для маіх беларускіх знаёмых муж на родах – непрымальна, а ў Англіі гэта нармальна. Роды былі натуральнымі. Пасля іх муж пераразаў сыну пупавіну, немаўля паклалі мне на жывот, пазней сына агледзеў педыятр. Падчас родаў і пасля дактары мяне падтрымлівалі.

У бальніцах ёсць асобныя палаты з санвузлом, радзільныя крэслы, калыска і рэанімацыйны столік, на якім аглядаюць дзіця. У некаторых палатах ёсць басейны, дзе можна чакаць схваткі. У кожнай палаце ёсць сумесь газу і паветра, што палягчае боль пры схватках і патугах.

Пасляродавая палата ў суткі каштуе 80 фунтаў (90 еўра). Агульная палата бясплатная. Там каля васьмі чалавек. У палаце ёсць санвузел. Усе жанчыны аддзеленыя шторкамі, дзеці з мамамі. У родавым аддзяленні сваякі былі са мной 24 гадзіны ў суткі. У пасляродавым ёсць гадзіны наведвання: для мужоў ад 12:00 да 20:00, для астатніх – ад 15:00 да 18:00.

Мяне кармілі тры разы на дзень. Па раніцах афіцыянт прыносіў меню. Ежу падавалі ў аднаразовым посудзе. На сняданак – тосты з джэмам і маслам, злакавыя шматкі з малаком. На абед і вячэру – гарачае, салата і дэсерт. Спецыяльных дыет не было.

Жанчын з дзецьмі выпісваюць на другія суткі пасля родаў. Перад нашай выпіскай доктар-неанатолаг агледзеў сына і праверыў слых на апараце. Мяне задаволіла, што можна было нараджаць з партнёрам, а таксама стаўленне дактароў пасля родаў.


Фота iran-daily.com

У розных краінах дактары па-рознаму дапамагаюць жанчынам атрымаць радасць мацярынства.

### Бясплатныя палаты – на два месцы з асобнай душавой

**КАЙЗЕРСЛАЎТАР, ГЕРМАНІЯ**

**Кацярына**, 31 год. Выхоўвае дачок Ксенію, шэсць год, і Яну, сем месяцаў.

– У Германію я з'ехала працаваць, там сустрэла мужа і засталася жыць. Зацяжараўшы, падабрала клініку, якая была бліжэй да дому.

У Германіі не важна, калі стаць на ўлік па цяжарнасці. Я стала дзесьці на сёмым тыдні. Доктара наведвала раз на месяц, а бліжэй да родаў – часцей. Медыцынская страхоўка пакрывае амаль усе выдаткі.

У дэкрэтны адпачынак можна ісці за паўтара месяца да родаў. І пасля родаў яшчэ два месяцы быць з немаўляткам. Можна напісаць заяву на працу і падоўжыць "дэкрэт" да двух ці трох гадоў.

Два гады аплата ідзе па медыцынскай страхоўцы, а трэці не аплачвае ніхто. За дэкрэтны адпачынак плацяць каля 67% ад заробку. З майго заробку выходзіла 600 еўра на месяц.

**Жанчына сама выбірае доктара і акушэра, якія будуць весці цяжарнасць і прымаць роды. У радзільні можна было выбраць, як нараджаць: у вадзе, дома пад наглядам акушэркі і г.д. Нараджаюць у сваім адзенні і ў зручнай позе. Дактары могуць прапанаваць абязбольвальныя.**

На родах можа быць муж, сяброўка, мама. Да мяне персанал ставіўся добра, падтрымліваў, ніколі не павышаў голас. Пасля нараджэння персанал дапамагае жанчыне. А пасля родаў акушэр два месяцы наведвае маму з дзіцем.

У клініцы ёсць платныя і бясплатныя палаты. Бясплатныя – двухмесныя з асобнай душавой, а платныя – аднамесныя. Каля кожнага ложка ёсць планшэт з навушнікамі з платным выхадам у інтэрнэт. Кармілі звычайнай ежай, дыеты не было. Ежа смачная. Сваякі могуць наведваць маму з дзіцем да 19 гадзін.

Маму з немаўлём выпісваюць на трэція суткі. Прышчэпкі дзіцяці робяць толькі пасля выпіскі, па меры сталення. У мяне ёсць страхоўка, таму наведваю дактароў бясплатна. Пасля родаў жанчыны могуць хадзіць на аднаўленчую гімнастыку, якая дапамагае вярнуць форму.

### У дзяржаўнай клініцы ставіліся лепш, чым у прыватнай

**НАНТЭЙ-ЛЕ-МО, ФРАНЦЫЯ**

**Алеся**, Таварэс, 30 год. Мама чацвярых дзяцей. Мацвею 9 год, Асеане 4, Станіславу 2, Логану 4 месяцы.

– Пераехала ў Францыю 15 гадоў таму з мамай і братам. Выйшла замуж і ў 21 год зацяжарала.

На ўлік па цяжарнасці трэба стаць да трох месяцаў цяжарнасці. Тады на сёмым месяцы вызваляюць ад аплаты дактарам, а пасля нараджэння дзіцяці мамам будуць выплачваць дапамогу.

Наведваць доктара і здаваць аналізы трэба штомесяц, а рабіць ультрагукавое даследаванне трэба тройчы за цяжарнасць.

У дэкрэтны адпачынак ідуць на сёмым месяцы. Калі дзіця першае, адпачынак доўжыцца, пакуль дзіцяці не споўніцца восем месяцаў. Калі другое, то ў "дэкрэце" можна быць, пакуль дзіцяці не споўніцца два гады. Пры нараджэнні немаўляці даюць 900 еўра. За дэкрэтны адпачынак дзяржава штомесяц выплачвае 180 еўра, а працадаўца плаціць прыкладна 60% ад заробку. Калі жанчына не працавала да цяжарнасці, то адпачынак аплачвае толькі дзяржава.

У нашай клініцы нараджаць з доктарам можна толькі пры праблемах са здароўем. У мяне прымалі акушэркі. На родах можа прысутнічаць муж або іншы блізкі чалавек. Для гэтага не трэба праходзіць ніякіх спецыяльных курсаў. Парадзіхам прапануюць абязбольвальныя за 250 еўра.

Пасля нараджэння дзіця ўвесь час з мамай. Муж можа наведваць іх увесь дзень, сваякі пасля абеду. Прыходзіць могуць таксама браты і сёстры немаўляці і дзеці ад 15 гадоў.

У радзільні ёсць як платныя, так і бясплатныя палаты. Платная ў прыватнай клініцы каштуе ад 100 еўра на суткі, у дзяржаўнай – ад 50 еўра. Я спрабавала абодва варыянты і розніцы амаль не ўбачыла. Бясплатныя палаты двухмесныя, а платныя – аднамесныя. У платнай ёсць ложак, тэлевізар, шафа, душ, туалет, ванначка для дзіцяці, падгузнікі, зялёнка і дзіцячы шампунь. У бясплатнай мыць дзіця трэба ў асобным пакоі.

Асаблівага харчавання ў радзільні не было – кармілі, як "у школьнай сталовай".

Пасля родаў у бальніцу прыходзіць педыятр, каб агледзець дзіця, і яшчэ раз перад выпіскай. Адно наведванне педыятра каштуе 60 еўра. У мяне ёсць страхоўка, таму я ні за што не плаціла. Маладых мам з дзецьмі выпісваюць праз тры-чатыры дні. Калі дзіця не першае, могуць выпісаць і на другі дзень.

Для мяне дзіўна, але ў дзяржаўнай клініцы да мяне ставіліся лепш, чым у прыватнай. Дактары там падаліся больш ветлівымі.

**Карына БАРАБАШ, "Intex-Press", Баранавічы.**

# Чаму касметычныя крамы эканомяць на пробніках духоў?

МАЛАДЗЕЧНА

**Я люблю хадзіць купляць духі ў маленькіх крамах, дзе табе выбраны флакончык пакажуць, дазволяць нанесці на запясце або пару разоў пырснуць духамі на паперку, а потым выйсці на двор, падыхаць і па-новаму адчуць пах, які ты вырашыла абраць сёння.**

А вось у буйных дыскаўнтэрах ці гандлёвых цэнтрах такой магчымасці няма.

Усе накрыўкі ў іх паздыманыя, і адзіная магчымасць адчуць пах, гэта ледзьве не засунуць нос у сам флакончык.

Вось і ўзнікла ў мяне пытанне, нашто ж эканоміць на пробніках? Няўжо крамам шкада таго, што кожны можа выбраць пах і застацца задаволеным пакупніком?

У гандлёвым аддзеле касметычнай кампаніі-вытворцы патлумачылі, што з кожнай партыяй тавару ў кожны магазін даецца флакон-пробнік, каб пакупнік мог выбраць любы пах, не ламаючы галаву, як гэта зрабіць.

Пры гэтым, у двух буйных маладзечанскіх дыскаўнтэрах сітуацыя роўна супрацьлеглая. Калі ў адным накрыўкі паздыманыя нават з той туалетнай вады, якая каштуе менш за пяць рублёў, то ў другім можна "аж заліцца" туалетнай вадой, якая каштуе больш за 30 рублёў.

Каментуюць прадаўцы гэта так:

– Нам не шкада, хай выбіраюць людзі. Прыемна ж дапамагчы.

На што дзяўчаты з іншага магазіна адказваюць:

– А нам шкада! Бо пробнік нам даюць толькі адзін, і вельмі недарэчна выглядае, калі стаіць пусты флакончык на паліцы, ад таго, што некаторыя літаральна заліваюць сябе туалетнай вадой з ног да галавы. Тым больш, калі прыцісніць флакон да цвёрдай паверхні і падкласці пад яго паперку, то туалетная вада выльецца. Гэтага дастаткова, каб вызначыцца, ці падыдзе вам гэты пах.

### У жанчыны не можа быць адных духоў, як не можа быць адной кофтачкі

Маладзечанка **Святлана Тамашэвіч** ужо некалькі год працуе кансультантам па продажы касметыкі і духоў.

Таму мы папрасілі Святлану падзяліцца сваім досведам, ці дастаткова проста пырснуць духі на паперку, каб выбраць свой пах.

– Па-першае, трэба разумець, што выбар духоў на 90 працэнтаў адбываецца да таго, як вы пераступілі парог крамы. Вы ж купляеце духі не тады, калі на дне флакона засталося некалькі кропелек. Як і не носіце адну кофтачку да дзірак. Як у вашым гардэробе ёсць адзенне на любы выпадак, так і духоў павінна быць некалькі флакончыкаў з рознымі пахамі.

У Святланы іх, напрыклад, дванаццаць.

І яшчэ, кажа Святлана, выбар духоў – гэта рытуал.

– Нельга купіць духі, калі вы прыйшлі ў краму купляць сродак для мыцця вокнаў. Духі – гэта адзенне для душы, таму ні спяшацца, ні спадзявацца на выпадак у гэтай справе не варта.

Па-першае, Святлана раіць пачынаць іх выбар з адказу на пытанне, хто вы: экстраверт ці інтраверт.

– Вызначыць гэта проста. Каго вы выберацe: ката ці сабаку? Калі ката – то вы чалавек замкнёны, інтраверт. І пах вам трэба такі, каб ствараў вакол вас быццам кокан. Калі ж ваша жывёла – сабака, то вы адкрыты чалавек. І пах вам падыдзе ўзрыўны, яркі, каб ствараў палёт.

Яшчэ выбар паху залежыць ад тыпу скуры. Калі скура сухая, то пах павінны быць лёгкі, бо на такой скуры ўсе пахі гучаць вельмі моцна. А калі скура тлустая, то можна быць смялейшым у выбары духоў, бо такая скура будзе паглынаць і самы смелы пах.




У Святланы Тамашэвіч у асабістым гардэробе "душы" 12 пахаў.

І так, вы ўжо ў краме. Як жа не разгубіцца ў вялікай колькасці пахаў і флакончыкаў?

– Вытворцы духоў вельмі адказна падыходзяць да сваёй прадукцыі. І колер футарала, і колер флакона вам могуць падказаць, які пах выбраць. Аранжавыя, жоўтыя флаконы сведчаць пра тое, што, хутчэй за ўсё, у духах будуць ноткі цытрусавых, а такі пах падыдзе для актыўных людзей. Чырвоны флакон намякае на тое, што пах, які захоўваецца ў ім, падыдзе для тых, хто хоча дадаць свайму вобразу загадкавасці, таму часцей за ўсё духі ў чырвоных флаконах будуць з ноткамі спецый: карыцы, бергамота. Зялёныя флаконы – для натур, якія выбіраюць свабоду і лёгкасць. Яны, хутчэй за ўсё, будуць пахнуць траўкай і ветрыкам. Ну, і сінія, фіялетавыя флаконы – гэта пахі паветра. Яны падыдуць для бізнес-лэдзі, жанчын са стрыжнем.

А калі і з колерам флакона вызначыліся, цяпер пяройдзем да выбару непасрэдна свайго паху.

– Па-першае, выбіраем максімум пяць пахаў, з большай колькасцю наш нос не справіцца. І наносім яго на блотэр (тая самая палоска паперкі). Затым з гэтых пяці пахаў выбіраем два, якія найбольш спадабаліся. І наносім іх на запясце. Запомніць проста: у нас два запясці, значыць, і пахаў наносім два. Добра ў гэтай сітуацыі сараканожкам. Пах наносім на запясце, а не на шыю, локці, калені і гэтак далей.

Пасля таго, як вы нанеслі духі на запясце, адразу "даваць нырца" ў яго не трэба. Дайце спірту знікнуць.

**Ніколі не трэба наносіць духі за вушка. Там знаходзіцца шмат сальных залоз, і нанясенне паху туды можна параўнаць з тым, што вы нанеслі духі ў падпахі.**

– Калі надта хочацца душыць твар, то лепш наносіць пах на шыю. Хораша раскрываецца пах, які наносяць на ўпадзінку паміж ключыцамі. Яшчэ ў мінулых стагоддзях, калі духі былі сухімі, дамы насілі іх у медальёнах, якія віселі акурат на так званай ярэмнай упадзіне.

І яшчэ сапраўдныя лэдзі, а мы ўсе адчуваем сябе імі, ніколі не будуць "пшыкацца" духамі.

– Парфумеры гэта называюць нанесці адзін подых. І пах наносіцца толькі на голае цела, ні на хустачкі, ні на шалікі, ні на футры, бо толькі на скуры пах раскрываецца. Яшчэ адзін спосаб нанясення паху называецца "рабіць дождж". Выцягваем руку і два-тры разы пырскаем у паветра пах. І пасля гэтага акунаемся ў гэта воблачка, даючы яму асесці на нашых валасах, тварах…

Цяпер вельмі модным стала наносіць адначасова два пахі. І рабіць гэта трэба наўскос. Адзін пах на левае запясце і на правы бок шыі, другі – наадварот.

Але не думайце, што вы выбіраеце адзін пах на ўсё жыццё. Мяняецца чалавек, настрой, характар, а разам з ім і пах, які будзе суправаджаць вас, ахутваць і дапамагаць скараць мужчынскія сэрцы.

**Наталля ТУР.**

Цытрусавыя
• лімон • мандарын
• апельсін • грэйпфрут
18 гадоў

Кветкавыя
• бэз • ружа
• лілея • півоня
25 гадоў

35 гадоў
• ваніль • карыца
• язмін • смолы
Усходнія

45+ гадоў
• сандал • пачулі
• бергамот • мох
Шыправыя



# Прапрадзед удзельнічаў у паўстанні Касцюшкі, дзядзька загінуў у савецкім лагеры

## Ураджэнка Княгініна прыгадвае родную вёску і сваякоў

МЯДЗЕЛ

**Сваю радзіму – вёску Княгінін, – бацькоў і падзеі 1920-1930-х гадоў на Мядзельшчыне ўспамінае Лідзія Антановіч. Размова адбывалася ў 2003 годзе.**




Аляксандр Адамовіч – грамадскі дзеяч БССР у 1920-х гадах.

"Мая родная вёска – Княгінін Мядзельскага раёна. Тут я нарадзілася 2 кастрычніка 1927 года. Асноўным заняткам маіх бацькоў была сельская гаспадарка.

Але па сваім становішчы бацькі адносіліся хутчэй да вясковай інтэлігенцыі, чым да асноўнай масы вясковых абывацеляў. Маю маці звалі **Вольга Адамовіч**. Паходзіла родам яна са збяднелай шляхты. Разпораз ўзгадвала, што адзін з нашых продкаў па прозвішчы **Адамовіч** прымаў удзел у паўстанні **Тадэвуша Касцюшкі**.

### Я – прапраўнучка ўдзельніка паўстання Касцюшкі

Ва ўдзельніка паўстання быў сын **Тадэвуш**, у таго – сын **Лукаш** і ўнук **Тумаш**, праўнучка **Вольга** і я ўжо прапраўнучка. У свой час маці вучылася ў Будслаўскай беларускай гімназіі ў адным класе з **Вінцуком Жук-Грышкевічам**. Тады ў яго прозвішча было проста Грышкевіч. Узгадвала, што Вінцук надта пацешны быў: і разумны, і смяшлівы. Дзяўчаты ўсё бегалі за ім і жартаўліва казалі: "Вінцучок, Вінцучок".

Мой родны дзядзька па маці, **Аляксандр Адамовіч**, загінуў у савецкіх засценках. У 1930-я гады ён праходзіў па сфальсіфікаванай савецкімі спецслужбамі справе "Саюз вызвалення Беларусі". Пра яго пішуць у шматлікіх даведніках. Ён нарадзіўся ў вёсцы Іжа ў 1898 годзе, а не ў 1900 і не ў Васюльках, як шмат дзе пішуць. Загінуў у 1937 у Карэліі.

Што тычыцца майго бацькі, то ён таксама быў неардынарны чалавек. Яго звалі **Аляксандр Антановіч**. Бацька быў адукаваны. Ён скончыў рэальнае вучылішча ў Вілейцы, затым тэхнічнае вучылішча ў Вільні і першы курс Казанскага ўніверсітэта. Падчас грамадзянскай вайны ў Расіі бацька пайшоў ваяваць у войска **Дзянікіна**. Але затым страшэнна расчараваўся той вялікадзяржаўнай шавіністычнай пыхай, што панавала сярод дзянікінцаў і асабліва моцна праяўлялася ў афіцэрства. Таму ён перайшоў да чырвоных.

У 1923 годзе праз савецка-польскую мяжу бацька вярнуўся ў Княгінін. Крыху абжыўся, пабудаваў сабе хату. Паранейшаму цікавіўся праявамі грамадска-палітычнага жыцця.

### Зарабляць ездзілі ў Латвію

Калі пры Польшчы пачала стварацца Беларуская Грамада, ён заснаваў у Княгініне гурток гэтай партыі. Ахвотных запісацца ў гурток было шмат. Бацька расказваў пра такі выпадак. Ідзе старэнькая бабулька з кіёчкам па вуліцы. Заўважыўшы бацьку, адразу падыходзіць і просіцца: "Алесечка, запішы мяне ў Грамаду".

Такі масавы рух сярод беларускага насельніцтва быў невыпадковым. Адным з заклікаў Грамады было патрабаванне даць зямлю сялянам, бо зямля пры Польшчы належала панам. Узяць да прыкладу той жа Княгінін. Амаль уся зямля належала тут пані **Козел-Паклеўскай**. Яе землі ахаплівалі вялікі абшар ад Яскавічаў да паварота на Васюлькі, што насупраць княгінінскай царквы. У той жа час сялянскія землі вузенькім шнурам цягнуліся адразу за вясковымі хатамі. Гэтых мізэрных надзелаў ледзьве хапала, каб пракарміць сям'ю.

Напрыклад, у Латвіі дзяржава выкупіла зямлю ў нямецкіх баронаў і аддала сялянам. Таму Латвія жыла багата, а Польшча была задрыпаная. Нашы аднавяскоўцы ездзілі ў Латвію на заробкі. Адна дзеўка паехала на год у Латвію кароў даіць і прыехала з поўным пасагам. Ці **Коля Крэмза** пабыў год у Латвіі. Працаваў садоўнікам – абразаў дрэвы, абкопваў іх. Як толькі прыехаў – адразу хату пабудаваў, хадзіў у модных касцюмах.

У нас жа можна было крыху зарабіць толькі ў панскай гаспадарцы. Аднак яна была малаэфектыўная: у нечым нагадвала калгасную. Сама пані Козел-Паклеўская надавала мала ўвагі гаспадарцы. Большасць гаспадарчых спраў вырашаў панскі загадчык. Сяляне далі яму здзеклівую мянушку **Забубіла**. Толькі пад наглядам гэтага Забубілы нашы сяляне маглі добра працаваць. А як той крыху ад'едзе ў іншы бок маёнтка, пад якія Яцкавічы, яны толькі для знешняга выгляду працавалі. Не свая зямля, таму і людзям не цікава было працаваць. Такая гаспадарка не магла быць прыбытковай. Наша пані ледзьве спраўлялася сплачваць падаткі. Таксама ледзьве выплачвала заробак свайму загадчыку, пакаёўцы, конюхам, дваровым даяркам. Да таго ж жанчынам за дзень у полі таксама трэба было па два злотыя заплаціць.

Адзінае спадзяванне на лепшае давала людзям праграма Грамады. Яны ўсім сэрцам успрымалі словы гуртkoўцаў. Кожны дзень шэрагі Грамады павялічваліся. Акрамя вырашэння надзённых праблем, народ прываблівала актыўная культурна-асветніцкая дзейнасць Грамады.

### Ставілі п'есы Аляхновіча і Каганца

Мой бацька разам з **Мікалаем Клімовічам** з Васюлькаў стварылі драмгурток. Выступалі перад гледачамі на школьнай сцэне. У Княгініне тады была цудоўная школа царскіх часоў. Яна была прадаўгаватая, у выглядзе літары П. Адно крыло школы было цалкам аддадзенае пад актавую залу. Да гэтага крыла школы быў змайстраваны асобны ганак, па якім можна было ўваходзіць з вуліцы. Народ заўсёды збіраўся поўная зала. Бацька надзвычай добра гаварыў, іграў на гітары, мандаліне і балалайцы. Бацька і маці выдатна спявалі. Мікола Клімовіч сваімі камічнымі сцэнкамі даводзіў да нястрыманага смеху. Актыўны ўдзел у сцэнічным жыцці прымаў таксама **Язэп Хільман**. П'есы ставіліся самага рознага зместу: "Мікітаў лапаць", "Ганка", "Дзе чорт не зможа, там бабу пашле", некаторыя п'есы **Францішака Аляхновіча**, **Каруся Каганца**.

Нацыянальна свядомы рух пашыраўся. Гурткі Грамады пачалі ствараца ва ўсіх навакольных вёсках. Бацьку абралі старшынёй Вілейскага павета па Грамадзе. Увесь свой час ён праводзіў у бясконцых раз'ездах: Куранец, Будслаў, Мядзел, Вілейка, Крывічы.

Самы актыўны патрыятычны рух, як казаў мой бацька, назіраўся пераважна ў каталіцкіх вёсках. Узгадваў вёскі Баравікі, Ніўкі, Восава, Выгалавічы. Напэўна, гэта было звязана з тым, што яшчэ з царскіх часоў каталікі прызвычаіліся змагацца за свае правы. А ўвогуле, самы моцны рух у падтрымку Грамады назіраўся на Дзісеншчыне і Вілейшчыне.

Пашырэнне беларускага нацыянальнага руху не магло не выклікаць занепакоенасці ў польскіх уладаў. Была задзейнічаная польская дэфензіва.

### Амаль дэтэктыўная гісторыя пра забойства паліцэйскага

У Княгініне быў такі інцыдэнт. Спадручныя дэфензівы забілі паліцэйскага і ўкінулі ў зруб лазні майго дзеда. Гэты паліцэйскі быў чалавек мяккі, і таму менавіта яго выбралі ахвярай.

У забойстве абвінавацілі маю маці і яе 14-гадовага брата Яўгена. Дзед мой адразу кінуўся па дапамогу да пана **Высоцкага**, які жыў у Пашкоўшчыне. Чаму да гэтага пана? Бо ён быў адзіны, хто прызнаваў былое шляхецтва Адамовічаў. І справы, пан Высоцкі дапамог разблытаць гэту гісторыю. Адначасова правадзіў сваё следства мой бацька. На чыгуначнай станцыі работнік буфета **Шэўчык** яму падказаў, што надвячоркам **Фалевіч** з двума сябрамі піліі гутарылі пра забойства.

Выкрыццё сапраўдных забойцаў стала страшэнным ляпсусам дэфензівы. Падласць не ўдалася. Аднак лёс Грамады ўсё роўна быў прадвызначаны, пакольку **Пілсудскі** аддаў загад усіх разагнаць.

Якраз у 1927 годзе, пасля Вадохрышча, мае бацькі ажаніліся. А праз два тыдні бацьку арыштавалі. Ён сядзеў у турме, калі я нарадзілася. Спачатку бацька сядзеў у Вілейцы, затым у Вільні на Лукішках. Разам з ім у турме сядзелі **Тарашкевіч** і **Рак-Міхайлоўскі**".

Запісаў
**Вадзім ПРАЎРАЦКІ**,
**МЯДЗЕЛ.**

Працяг будзе.

● КАЛЯНДАР

**2 ЛЮТАГА**

**180 гадоў** з дня нараджэння **Кастуся Каліноўскага** (Вікенція Канстанціна Сямёнавіча) (1838 – 1864), беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, публіцыста, паэта, кіраўніка паўстання 1863 – 1864 гг. у Беларусі і Літве.

**4 ЛЮТАГА**

**210 гадоў** з дня нараджэння **Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча** (Вікенція Іванавіча) (1808 – 1884), беларускага паэта, драматурга, тэатральнага дзеяча, класіка беларускай літаратуры.

**1934.** Нарадзіўся **Арсень Ліс**, беларускі фалькларыст, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук (1997), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Нарадзіўся ў вёсцы Вётхава, цяпер Смаргонскі раён. Аўтар даследаванняў па гісторыі культуры, жанрах беларускага фальклору, фалькларыстыкі. Напісаў сцэнары дакументальных фільмаў "Песня на ўсё жыццё", "Алеі жыцця", "Адвечныя званы".

**1894.** Памёр **Адам Гурыновіч** (фальварак Крыстынопаль), паэт, фалькларыст.

**1950.** Памёр **Ян Булгак**, беларускі і польскі майстар мастацкай краязнаўчай фатаграфіі, "бацька польскай фатаграфіі", адзін з піянераў польскай мастацкай фатаграфіі, этнограф, фалькларыст. Нарадзіўся ў 1876 годзе.

**1978.** 40 гадоў назад памёр **Аркадзь Куляшоў**, паэт, перакладчык. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Нарадзіўся 6 лютага 1914 года.

**5 ЛЮТАГА**

**1916.** Нарадзілася **Валянціна Пашкевіч** (дзяв. Жукоўская), дзеяч эміграцыі ў Канадзе, аўтар беларускіх падручнікаў і адна з аўтараў "Англійска-беларускага слоўніка".

**1930.** Нарадзіўся **Расціслаў Янкоўскі**, савецкі і беларускі акцёр, народны артыст Беларусі, народны артыст СССР. Памёр у 2016 годзе.

**8 ЛЮТАГА**

**1810.** Нарадзіўся **Іван Хруцкі**, мастак, заснавальнік жанру акадэмічнага нацюрморта ў беларускім жывапісе. Галоўнымі героямі яго твораў была звычайная гародніна – морква, капуста, цыбуля, гарбузы. Яны паўсталі на яго палотнах у казачнай прыгажосці. Адначасова пісаў цудоўныя партрэты, з'яўляўся майстрам краявіду. Пражыў 74 гады.

**1914.** Нарадзіўся **Валянцін Таўлай**, паэт, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

**1921.** Нарадзіўся **Іван Мележ**, пісьменнік, грамадскі дзеяч.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# “У вас – рак”, – сказаў доктар і ўсміхн

## віляйчанка – пра тое, як хварэла на анкалогію

ВІЛЕЙКА

**Пра рак малочнай залозы – хваробу, з якой сутыкнулася ў 2016 годзе, – Жанна Вярбіцкая з Вілейкі распавядае з усмешкай і нават з гумарам. І толькі ў асабліва хвалюючых момантах у беззаганна нафарбаваных вачах блісне сляза.**

По дыпломе Жанна – мастак па роспісе тканіны, па прызванні – спявачка і актрыса. Працавала мастаком-афармляльнікам, дзесяць год іграла ў народным тэатры ў Вілейцы. Сёння яна працуе мастацкім кіраўніком у Любанскім Доме культуры, праводзіць вяселлі.

**– Жанна, распавядзіце, як пачыналася хвароба?**

– У адносінах здароўя – я чалавек дысцыплінаваны. З юнацтва раблю зарадку, здаю ўсе патрэбныя аналізы. У 48 год першы раз зрабіла мамаграму, таму што падышоў узрост. Тады мой доктар-гінеколаг сказаў, што ніякіх праблем у мяне няма. Як і ўсім жанчынам майго ўзросту, параіў самастойна абследаваць малочныя залозы, раз на год рабіць УЗІ, два разы на год – мамаграму.

У пачатку 2016 года навалілася шмат працы: наваготнія канцэрты, раніцінкі. І хоць ужо падыходзіў час зрабіць УЗІ, я прапусціла яго. Неяк пры самаабследаванні на малочнай залозе з правага боку адчула ушчыльненне. Але зноў жа – праца, а тут яшчэ ў лютым накіравалі на курсы ў Мінск. Мне б схадзіць праверыцца ў сталічнай клініцы, але тады чамусьці не зрабіла гэтага.

**– Боль адчувалі?**

– Менавіта само ўшчыльненне не балела, але пагоршылася агульнае самаадчуванне, з'явілася слабасць, стомленасць. У Мінск на курсы брала з сабой спартыўныя снарады. Рабіла зарадку, піла каву, але стомленасць не праходзіла. На тварах з правага боку, бліжэй да падбародка, з'явіліся цвёрдыя фурункулы. Думала, прастыла. Усё ж быў люты, а ў Мінску мусіла часта ездзіць на грамадскім транспарце.

Пасля курсаў вярнулася ў Вілейку. На працы правялі канцэрт да 8 Сакавіка, і я адчула, што з-за гэтай слабасці і стомленасці трэба браць бальнічны. Выклікала на дом тэрапеўта. Доктар паглядзела, паслухала і ўжо збіралася сыходзіць, як раптам я ўспомніла пра тое ўшчыльненне і папрасіла паглядзець. Пасля агляду тэрапеўт параіла звярнуцца да гінеколага. Гінеколаг паглядзела, сказала не палохацца, але накіравала на мамаграму.

**– Вы ўжо тады адчулі нядобрае?**

– Хутчэй за ўсё, так. Магчыма, адчувала і раней. Таму свядома цягнула, не хацела пачуць дыягназ. Гэта, дарэчы, памылка многіх людзей, хворых на анкалогію. Насцярожылі і паводзіны гінеколага. На ранейшых прыёмах яна заўсёды казала, што ўсё добра. А тут не стала хаваць, што мой стан ёй не падабаецца.

**– Тады асцярогі пацвердзіліся?**

– Уявіце, не. Здараецца так, што мамаграма не паказвае ўшчыльненне. Я тады грашыла на дрэнны апарат, але пасля даведалася, што яно часам бачнае толькі на УЗІ. А я ж прапусціла УЗІ ў 2016 годзе. Магчыма, тады б усё выявілася на яшчэ ранейшай стадыі. Нягледзячы на тое, што на мамаграме было быццам бы ўсё добра, гінеколаг адправіла ў мясцовы анкалагічны дыспансер да анколага. Гэта было прыкладна 16-17 сакавіка. У рэгістратуры сказалі, што могуць запісаць на УЗІ толькі на 15 красавіка, бо ў іх чарга. Трапіць на прыём да анколага таксама не атрымалася.

Рэгістратарка, нібы прафесар медыцыны, пагартала маю картку і сказала: "Ідзіце, жанчына. Тут жа ў мамаграме пазначана, што ў вас усё добра". Калі я пачала настойваць, яна набрала нумар тэлефона доктара, пачытала яму запісы ў картцы і ўрэшце яшчэ раз паўтарыла: "Ідзіце, ідзіце. Усё нармальна ў вас."

Я выйшла ў шоку. Патэлефанавала ў сталіцу нявестцы, каб знайшла, дзе можна платна і хутка зрабіць УЗІ. Паехалі ў адну са сталічных радзільняў, зрабілі УЗІ, і мне сказалі, што патрэбная кансультацыя анколага.

**– Памятаеце свае адчуванні ў той момант?**

– Спалохалася. Была разгубленасць ад таго, што не ведаеш, куды з гэтым ехаць. Муж патэлефанаваў сваёй сястры, што працавала ў адным з міністэрстваў. Дзякуючы ёй, я трапіла ў прэзідэнцкую клініку. Добрыя адносіны да сябе адчула адразу. Доктар сустрэў з усмешкай.

**– Ён і паведаміў вам пра хваробу?**

– Так. Ён яшчэ раз зрабіў мне УЗІ. І я спытала: "Рак?"

– Рак, – адказаў ён і... усміхнуўся. – І хто ж яго заўважыў?

– Я сама.

– Якая ж вы малайчына! – пахваліў анколаг, і пакуль я ляжала на стале, яшчэ раз агледзеў мяне са словамі: – Так... Тут прыбяром, тут дададзім. Будзеце, як Анджаліна Джалі. Ведаеце, у мяне ёсць два сябры, што робяць аперацыі: высокі і нізкі, як Дон Кіхот і Санча Панса.

І тут жа патэлефанаваў аднаму з сяброў і дамовіўся, сказаўшы, што зараз да яго прыедзе адна маладая сімпатычная дзяўчына.

І ўсё гэта рабілася з жартамі, усмешкай. Мне нават падумалася: ну, і добра, што ў Вілейцы не прынялі. І дзякуй той прафесарцы ў рэгістратуры! Каб мне ў Вілейцы пра хваробу сказалі, напэўна, памерла б адразу.

Доктар намаляваў мужу схему, як даехаць да першага анкалагічнага дыспансера ў Мінску, і зноў жа пажартаваў: маўляў, там такая назва вясёлая – АХА-1 (анкахірургічнае аддзяленне).

У дыспансеры мяне прыняў доктар **Генадзь Былінскі**. Спытаў мамаграму. Я падала яму паперку. А ён пытае: "А дзе дыск?" Аказалася, што і мамаграму, і УЗІ абавязкова павінны рабіць з дыскам, каб доктар бачыў запіс. Не ведаю, чаму ў Вілейцы так не робяць.

Пасля была біяпсія. І дакладны дыягназ – 1 ступень анкалогіі – пацвердзіўся.

**– Атрымліваецца, вас, ужо анкалагічна хворую, адправілі з вілейскага анкадыспансера са словамі "усё ў вас, жанчына, нармальна"?**

– Атрымліваецца так. Уявіце, у пятніцу ў Вілейцы мне сказалі "ў вас усё нармальна", а ў панядзелак у Мінску мне паставілі рак. А іншая жанчына магла б і не паехаць у Мінск, а пачуўшы "усё нармальна", пайшла б дамоў чакаць, пакуль будзе чацвертая ступень, калі ўжо нічога зрабіць немагчыма.



Зарадкай віляйчанка Жанна Вярбіцкая займаецца з юнацтва.

**– Раскажыце пра час перад аперацыяй.**

– Мне павінны былі выдаліць хворую малочную залозу і паставіць імплантант. Працэдура каштавала 15 мільёнаў на старыя грошы. Калі стала вядомая гэтая сума, я выйшла з кабінета да нявесткі і мужа. І кажу: трэба 15 мільёнаў. А муж: "Так, так, канешне!" А я ж ведаю, што дома грошай зусім няма. Мы – музыканты, грошы заўжды вадзіліся, але якраз на той час не было.

**– Як шукалі?**

– Муж напазычаў у сваіх сяброў. А ўжо пасля аперацыі ўзяў крэдыт, каб разлічыцца з людзьмі. Крэдыт выплачвае і сёння.

У бальніцу мяне паклалі 6 красавіка, а 7, на Дабравешчанне, ужо была аперацыя. Мне пашанцавала, што так хутка. Маральна вельмі цяжка доўга чакаць аперацыю ў бальніцы.

**– Што найбольш палохала?**

– Наркоз. Начыталўшыся і наслухаўшыся, баялася, каб хаця правільна дозу разлічылі. Аперацыю рабілі вечарам, ад чатырох да шасці. У палату прывезлі прыцемкамі. Пэўны час нельга было засынаць, а я ўсё баялася, што засну. Адразу перад аперацыяй і пасля бачыла толькі твар анестэзіёлага. Доктара Былінскага не бачыла зусім. Ён пажартаваў пасля: дык можа, анестэзіёлаг вам і аперацыю рабіў?

**– Умовы, напэўна, у сталічным дыспансеры вельмі добрыя?**

– У аддзяленні зрабілі рамонт. А вось да аперацыйнай рамонт не дайшоў. Але там на гэта ўвагі не звяртаеш. Галоўнае, цёплыя, чалавечыя адносіны ўсяго персаналу. Калі доктар дрэнны як чалавек і як спецыяліст, то ў якія б шыкоўныя кабінеты яго ні пасадзілі, хворым ад гэтага не стане лепш.

Цікава яшчэ тое, што, здавалася б, у такім невясёлым месцы людзі – аптымісты: і дактары, і хворыя. Асабліва наша палата вясёлая была. Я ўсіх смяшыла анекдотамі і прыколамі. Дзякуючы таму, што праводжу вяселлі, шмат усяго ведаю. Мы так гучна смяяліся і нават песні пелі пад тэлефон.

Знаёмыя пыталіся, колькі грошай я дала дактарам, што яны так добра да мяне ставіліся. Але гэта тыя дактары, якіх проста немагчыма было абразіць хабарам. Дамовіліся, што я ім адспяваю і адтанцую.

**– Як адчувалі сябе пасля аперацыі?**

– Праз два тыдні мяне выпісалі. Далей – шэсць працэдур хіміятэрапіі. "Хімію" прызначылі самую моцную – з чырвоным растворам, падобным да журавінавага морсу. Я і цяпер не магу глядзець на такі морс. Працэдуры рабілі з інтэрвалам праз 20 дзён. Бо пасля гэтага часу ўжо пачынаюць расці ракавыя клеткі.

**– Кажуць, хіміятэрапія вельмі дрэнна ўплывае на самаадчуванне. Як было ў вас?**

– На першую "хімію" паехала, нічога не прачытаўшы, не ведаючы. На другі дзень пасля працэдуры ў Вілейцы сабраліся з сяброўкамі, пайшлі на прыроду. Так добра пасядзелі, нагаварыліся. Я дранікаў нарэлася, што сяброўка прыгатавала. Як жа мне дрэнна ўвечары было! Пасля ўжо даведалася, што трэба з ежай вельмі акуратна.

Паміж працэдурамі

# уўся так, што я забылася пра хваробу:





На трэнажоры Жанна займаецца ўсваё задавальненне: калі – каля гадзіны, калі – 15 хвілін.



Карцінамі свайго бацькі, мастака Сяргея Вярбіцкага, Жанна ўпрыгожыла кватэру.

піла шмат лекаў: для падтрымання сэрца, печані, розныя вітаміны. Уколы калола сама сабе ў нагу. Ампулы спецыяльна брала імпартныя. Іх лягчэй адкрыць. Здавалася б, дробязь. Але для мяне гэта было істотна. Адкрываючы беларускую ампулу, неяк параніла правую руку. А яе пасля аперацыі не пажадана было траўмаваць.

Пасля першай "хіміі" пачалі вылазіць валасы. Як толькі заўважыла, паехала да сяброўкі-цырульніцы і кажу: "Галі налыса!" Вырашыла, што парык купляць не буду. Валасы адрастуць, куды яго потым дзену? Хіба як рэквізіт на вяселлях выкарыстоўваць? Па інтэрнэту замовіла сабе шмат прыгожых тонкіх шапачак. Старалася з густам апранацца, заўсёды фарбавалася, рабіла манікюр, педыкюр. Думала: і так мне дрэнна, дык будуць яшчэ і пазногці недагледжаныя раздражняць. Чула шмат кампліментаў. Калі хто тэлефанаваў, хацеў прыйсці, усіх папярэджвала: не палохайцеся, я лысая.

Недзе пасля пятай хіміі валасы пачалі адрастаць. Старэйшая ўнучка гладзіла мяне па кароткай прычосцы і казала: "Бабуля, ты як мішка".

Часта адчувала сябе, як цяжарная. Было млосна ад розных пахаў, хацелася чаго-небудзь, напрыклад, сушаных рыбы. Толькі вось адрозненне: цяжарнасць – гэта шчасце.

Самаадчуванне было жахлівае. Выкручвала косці, балелі ногі, злазілі пазногці. Начамі доўга не магла заснуць, гадзінамі сядзела на балконе. Стала плаксівай, раздражнёнай. Пасля чарговага эмацыйнага ўсплёску, казала родным, што гэта не я, гэта мая хвароба. Хіміятэрапія сапраўды не лепшым чынам уплывае на мозг. Быў час, калі тэмпература падымалася да сарака, ад хіміятэрапіі захварэла на стаматыт. З цяжкасцю падымалася ў сваю кватэру на чацвёрты паверх. І здавалася, што такое самаадчуванне будзе заўсёды.

Перыядычна здавала аналіз крыві. Былі праблемы з лейкацытамі. Пры неабходным паказчыку чатыры і пяць, яны знізіліся да 0,88. Прызначылі пяць уколаў антыбіётыкаў у вену. Хадзіла іх рабіць у вілейскі анкадыспансер. Перад трэцім уколам прыснілася мама-нябожчыца.

Пайшла на ўкол. Медсястра пачала ўводзіць, а я кажу, што мне быццам бы пашчыпвае ў вене. І раптам валюся і трачу прытомнасць. Калі ачуняла, убачыла над сабой твары дактароў.

І адна з іх, на маю думку, самы душэўны там чалавек, Таццяна Поклад, сказала: "Дзякуй богу, што ачуняла! Пасля гэтага прэпарату парадзіха ў Маладзечне памерла".

Аказалася, я перажыла анафілактычны шок. Хацелі пакінуць на нейкі час у бальніцы, але я, як пахадзіла па гэтых змрочных калідорах і лесвіцах, як пабачыла турэмную прыбіральню, сказала: "Не!" У выніку на наступны дзень лейкацыты павысіліся самі. Я адчула гэта. Адчуванні пацвердзіў і аналіз, зроблены ў Мінску.

**– Падчас хваробы было жаданне займацца хатнімі справамі, хобі?**

– Я перагледзела старыя савецкія і французскія фільмы, сядзела ў скайпе, сацсетках. Раптам захацелася класічнай музыкі. Засынала пад Шуберта, Бетховена.

**– Можа, малявалі?**

– Не. Маляваць не хацелася. Хоць і эцюднік татаў у кватэры ляжыць. Я мала малявала. Адзіную сваю працу, напісаную алейнымі фарбамі, падарыла свекрыві. Магчыма, калі-небудзь прыйду да гэтага. Вось і сын пытаецца, чаму я не малюю. Сын, Максім, бацька трох маіх унучак, – творчая асоба, сам піша музыку. А тата шмат маляваў. Ён тады з кватэры сыходзіў у падвал, дзе абсталяваў майстэрню. На сценах у маёй кватэры – толькі татавы карціны. Часам бачу яго нацюрморты ў знаёмых і незнаёмых людзей.

**– Як вы цяпер сябе адчуваеце?**

– Абсалютна здаровым чалавекам. Цяпер у мяне рэмісія – час, калі хвароба слабне і паступова знікае. Кажуць, трэба каля двух гадоў, каб рэабілітавацца. Столькі спатрэбілася і мне. Прымала транквілізатары, пасля адмовілася ад іх, была на бясплатнай рэабілітацыі. Летась у студзені ўжо адыграла першае, пасля доўгага перапынку, вяселле. Усё прайшло добра, хоць фізічна было цяжкавата, бо спяваю толькі ўжывую. Адразу, калі даведалася пра хваробу, адмовілася ад курэння, таму мой голас стаў больш высокім.

**– Ад чаго яшчэ мусілі адмовіцца з-за хваробы?**

– Больш ні ад чаго. Харчавацца правільна я старалася і да хваробы. Ад зарадкі таксама не адмаўлялася. Нават у бальніцы рабіла практыкаванні на ложку і на парэнчах лесвіцы. Цяпер узяла сабе ў растэрміноўку велатрэнажор. Думаю, што дзякуючы спорту, якім займаюся для сябе, мне было лягчэй перанесці і хваробу, і аперацыю.

**– Ці ўплывала хвароба на адносіны з роднымі і сябрамі?**

– Так. Некаторыя перасталі тэлефанаваць. Баяліся чагосьці. Вельмі ўдзячная мужу, Юрыю, і сыну, якія былі побач у няпросты час. Аднойчы так атрымалася, што хіміятэрапія была перад самым маім днём нараджэння. Муж спытаў пра падарунак, а якраз у краме абутку ў Маладзечне былі зніжкі. Паехалі туды і набылі мне ў падарунак дзве пары прыгожага абутку. Зрабілі гэта за некалькі дзён да дня нараджэння, бо ведалі, што, калі пазней, мне будзе дрэнна пасля хіміі.

Кажу цяпер усім сябрам, каб сачылі за сваім здароўем. Не лічу сябе вялікім прафесіяналам у анкалогіі. Тым больш ракі – яны розныя, індывідуальныя. У жанчыны, якая захварэла ў 50, хвароба можа працякаць зусім не так, як у 40-гадовай.

І ўсё ж мне дзіўна, калі адна знаёмая кажа, што была ў гінеколага 34 гады таму, калі нараджала сына. Некаторыя кажуць, ты вось і аналізы здавала, і правяралася, а захварэла. А можа, я і захварэла ад таго, што ў свой час прапусціла УЗІ.

З'явіліся і новыя знаёмыя. Разам са мной ляжала жанчына з Наваполацка, Святлана. Я адразу адчула ў яе асобе родную душу. Тым больш, Наваполацк – гэта горад, дзе я нарадзілася. А потым ужо сям'я пераехала ў Вілейку, на радзіму бацькі, мастака **Сяргея Вярбіцкага**, пра якога, дарэчы, пісала "Рэгіянальная газета". У невялічкай Вілейцы не хочацца дзяліцца з людзьмі нечым патаемным, а са Святланай я магу гаварыць на любыя тэмы.

**– У роспачы, захварэўшы на анкалогію, людзі часта кідаюцца да розных народных сродкаў. Як вы да гэтага ставіцеся?**

– Я не супраць травак: рамонку, зверабою, але калі яны не замест лекаў, а разам з імі. Упэўненая, ставіць дыягназ і прызначаць лячэнне павінны толькі доктар. Сама спрабавала піць спіртавы настой грыба вясёлкі, але так і не ведаю, ці дапамог ён мне.

Некаторыя знаёмыя кажуць, навошта ты на аперацыю пагаджалася і імплантант ставіла? А я ў адказ – "канешне, трэба было прыкласці капусным лістом і чакаць".

**Фота аўтара.**



Аксана
ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ. ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 1)

## Як пачаць вучыць шахматам, калі сам у іх поўны нуль

**Віталь Качаткоў рыхтуе да друку новы шахматны дапаможнік. Гэтым разам для дарослых, якія вучаць гэтай гульні дзяцей. Прапануем складзеную ім праграму.**

Шахматы – не толькі геніяльная інтэлектуальная гульня, але і наймагутнейшы сродак разумовага развіцця. Не толькі для дзяцей, але і для дарослых.

У многіх краінах Захаду шахматы ўведзены ў школьную праграму на ўзроўні прадмета. І больш за 20 гадоў школьнікі заходніх краін, дзе выкладаюць шахматы, атрымліваюць добрую базу інтэлектуальнай гульнявой логікі.

Я – майстар спорту па шахматах, бацька траіх дзяцей, – хачу заставіць увагу на велізарнай магчымасці развіцця дзіцяці праз шахматнае навучанне ў дашкольным узросце. Разумець шахматы можна ўжо ў тры гады!

**Сапраўды, далучаць да свету шахмат можна ад трох год.**

Але гэта хутчэй для вельмі развітых дзетак. А астатнім можна смела пачынаць вучыцца і гуляць з чатырох-пяці гадоў. І ўжо да школы дзіця будзе шмат чаго ўмець. Шахматы дапамогуць развіць уседлівасць, уважлівасць і нават логіку.

Праверана на ўласных дзецях. Цяпер мой старэйшы сын сярод паспяховых студэнтаў БДУ, дачка добра вучыцца ў ліцэі на фатографа, а малодшы выдатна паказвае сябе ў вучобе, музыцы, спевах, дзюдо і... не забывае пра шахматы. Няхай мае дзеці і не стануць гросмайстрамі, але яны з лепшага боку адрозніваюцца ад тых, якія шахматамі не займаліся. Гэта не хвальба, а рэальнасць.

Хай і ў вас, і ў вашых дзяцей усё атрымаецца. Галоўная парада: дзецьмі трэба ЗАЙМАЦЦА.

Так, вы прапусціце любімы серыял або матч ці яшчэ нейкую ну, вельмі важную справу. Але калі ўсведамляеце, што вашы дзеці і ёсць ваша самая важная справа, то тады ўсе справы, не толькі шахматныя, пойдуць угору. Любіце дзяцей. Праз гульню займайцеся з імі. Не сварыцеся на іх, больш хваліце і прысвячайце больш часу. Будзе выдатна, калі на дапамогу прыйдуць бабулі і дзядулі. У іх больш часу, і яны павінны любіць унукаў больш за вас. Накарміць і даць цукерку – гэта адно. А навучыць чамусьці каштоўнаму – зусім іншае, цудоўнае пачуццё.

**Далучыце да шахматаў бацькоў. Шахматы – выдатны спосаб для сталых людзей трымаць розум у тонусе.**

Таму, гуляючы з ўнукамі ў шахматы, бабулі і дзядулі і ўнукам дапамогуць, і свае мазгі павярушаць.

Для заняткаў вам спатрэбяцца шахматы. Выбірайце даволі вялікія, каб дошка была не менш за 40 сантыметраў, а фігуры ад чатырох сантыметраў.

Мы будзем рэкамендаваць маляваць фарбамі, алоўкамі і фламастарамі, ляпіць з пластыліну і прыдумваць шмат розных цікавых дапаможных гульняў на аснове шахматаў. Няхай вашы старанні акупяцца выхаваннем разумнай і годнай асобы!

Цяпер галоўнае – цярпенне і не спяшацца. Як казаў адзін мудры яўрэй, не трэба мне грошай, успомніце пра мяне добрым словамі праз 15 гадоў!

А пакуль рашыце задачку на мат за адзін ход. Адказ дашліце рэдакцыі на адрас regionnews@rh.by. Магчыма, вы будзеце сярод тых, хто атрымае задачнік "Мат у адзін ход" у падарунак.






Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.

# Калі сведка на тваім вяселлі... зубр

## Маладзечанцы згулялі вяселле ў стылі "Дынама-Маладзечна"

МАЛАДЗЕЧНА

**Генадзю і Аксане Мядзведзевым удалося сумясціць любоў да хакея і сваё ўласнае каханне. Проста ў адзін са студзеньскіх дзён яны сказалі адзін аднаму "так" на вачах у талісмана каманды – зубраняці.**




– Мы пазнаёміліся з Аксанай у інтэрнэце, – расказвае Генадзь, – і адразу знайшлі агульныя тэмы для размовы. Адна з іх, вядома, хакей. Мы не прапускаем ні аднаго хатняга матча каманды, па магчымасці ездзім і на выезды.

Каманда "Дынама-Маладзечна" стала настолькі часткай жыцця двух закаханых людзей, што яны нават і не вагаліся, якім павінна быць вяселле – толькі ў сінебелых колерах.

– "Дынама-Маладзечна" – каманда нашага горада, мы ёй вельмі адданыя. Я кажу гэта абсалютна шчыра. Таму і рашыліся на такі незвычайны вясельны стыль. Але гасцям спадабалася.

На вяселлі, расказваюць маладыя, у дынамаўскім стылі было абсалютна ўсё: пачынаючы ад машын вясельнага картэжа, якія былі ўпрыгожаны сіне-белымі аксесуарамі, да келіхаў з шампанскім.

Ды і ўборы маладых былі не традыцыйныя: белая сукенка ды чорны смокінг, а сапраўдныя гульнявыя джэрсі. Як і трэба, у нявесты – белага колеру, у жаніха – сіняга.




– У ЗАГСе, думаю, мы запомніліся. Такога вяселля там яшчэ не бачылі, таму яго супрацоўнікі палаца рэгістрацыі шлюбу заахвоцілі з намі сфатаграфавацца.

– А як сваякі адрэагавалі? Бацькі, бабулі?

– Уся сям'я ў курсе, што хакей – гэта не захапленне, гэта наша другое жыццё. Таму ўсе прынялі гэту ідэю нармальна.

Генадзь расказвае, што з Аксанай, калі і ўзнікаюць спрэчкі на хакейную тэму, то яны хутка вырашаюцца.

– Я нават спрэчкай гэта не магу назваць, так, розныя погляды на гульнявую сітуацыю. Найперш таму, што мне, напрыклад, больш даспадобы гульня **Антона Мохарава**, у Аксаны ж любімы гулец – **Арцём Землянікін**.

Хаця ў маладой сям'і і няма іншых захапленняў, акрамя хакея, але шпалеры, кажа Генадзь, пакуль сіне-белыя клеіць не плануюць ды і наўрад ці хатняга гадаванца назавуць у гонар якога-небудзь хакеіста.

– Без фанатызму, – усміхнуўся Генадзь.

**Наталля ТУР.**

**Фота забяспечанае Генадзем МЯДЗВЕДЗЕВЫМ.**



**Вяселле ў стылі "Дынама-Маладзечна" ад Генадзя і Аксаны Мядзведзевых. Хачацe, каб урачыстасць запомнілася, самі рабіце яе незабыўнай.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Мукамол.
6. Яны бачаць скрозь павекі.
7. Беларускі горад, які ў 20-м стагоддзі мог стаць сталіцай.
10. Група людзей, звязаных агульнымі мэтамі, інтарэсамі.
13. 20-метровая асобіна можа выпрацаваць энергію, здольную запаліць 12 лямпачак.
14. Частка адзення ў форме прышытага або ўшытага мяшочка для дробных рэчаў і грошай.
15. Плоскалістая ваніль, якую мы ўжываем, адна з 30 тысяч сямейства надзвычай прыгожых раслін, што часта ўпрыгожваюць нашы дамы.
16. Памылка, промах, недахоп.
17. Метал бляхі для кансерваў.
18. Памяшканне для птушак і жывёлін, сценкі якога зробленыя з металічных або драўляных прутоў.
22. З аднаго дрэва іх атрымоўваецца каля 160 тысяч.
23. Адна з мышцаў пляча, якая згінае руку ў локцевым суставе, або сцягна, якая згінае галёнку ў каленным суставе.
24. Штрафны вуглавы ўдар у футбольнай гульні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Дзікі горны баран.
3. Празрыстае крышталічнае рэчыва з моцным мятным пахам.
4. Слабы вецер, які дзьме днём з мора на бераг, а ноччу – з берага на мора.
5. Венера.
8. Праз мільярд год Сонца значна павялічыцца. У ядры закончыцца гэта рэчыва, і гарэнне пяройдзе на паверхню, праз што стане нашмат ярчэйшым.
9. Тытул арыстакрата ў Англіі.
11. На гербе гэтага беларускага горада выява рукі на блакітным полі, што трымае бязмен.
12. У гэтай краіне існуе феномен, вядомы ва ўсім свеце. Пасярод гарачай пустыні на вяршыні 25-метровага пясчанага ўзгорка стаіць дрэва. Яно жыве амаль 400 год і вышэй за дзевяць метраў. Яно сімвалізуе цвёрдасць духу і прагу да жыцця.
19. Які адбываецца ў кароткі адрэзак часу.
20. У Лельчыцкім раёне 62% тэрыторыі займае ён.
21. У млекакормячых кроў чырвоная, у насякомых жоўтая, а ў іх сіняя.
24. На гербе гэтага беларускага горада – сем кветак блакітнага лёну.
25. Гэта жывёлінка – найлепшы садоўнік. Мноства дрэў вырастае таму, што гэта руплівка забывае, дзе схавала насенне.

## Адказы на крыжаванку з №4

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Прастор. 4. Дровы. 5. Атрад. 6. Амлет. 8. Мядзведзь. 12. Валуны. 13. Зух. 14. Мёры. 15. Тундра. 17. Правіянт. 21. Полацк. 22. Арфа. 23. Гомель. 24. Прашчур. 25. Прагна.
**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Персона. 2. Аплатка. 5. Аншлюс. 7. Тэрмометр. 9. Зямля. 10. Разгон. 11. Забудова. 16. Пузыр. 18. Завада. 19. Альбом. 20. Сасна. 22. Аналогія. 26. Рысь. 27. Кахаем.

## ГАРАСКОП 2-8 ЛЮТАГА



**АВЕН.** Уласнае жыццё зменіцца ў тым выпадку, калі вы пераменіце погляды і перастанеце шукаць ідэальнага спадарожніка жыцця. Паспрабуйце ўвасобіць у жыццё старыя мары, тыя, што здаваліся недасягальнымі.



**ЦЯЛЕЦ.** Стаўце мэту і няспешна і цярпліва ідзіце ёй насустрач. А тое, што вы яе даб'яцеся, сумненняў не выклікае. Рабіце добрыя справы, і ўдача не прымусіць сябе чакаць, усё акупіцца ў сто разоў.



**БЛІЗНЯТЫ.** У вас будзе дастаткова энергіі і сіл, каб пракласці сабе дарогу ў будучае і значна па ёй прасунуцца наперад. А яшчэ будзе поўна ідэй, галоўнае ўсе запомніць, каб пасля абавязкова рэалізаваць.



**РАК.** Перыяд не толькі удачны, але і вельмі адказны. Плады вашых намаганняў абавязкова пачнуць прыносіць дывідэнды ў недалёкай будучыні. І чым больш сіл вы патраціце на іх вырошчванне, тым большую аддачу зможаце атрымаць.



**ЛЕЎ.** Сур'ёзнае захапленне выкліча фінансавая сфера, таму адарваць вас ад клопатаў, звязаных з зарабляннем грошай і ўмацаваннем свайго матэрыяльнага становішча, зможа толькі нешта глабальнае. Але такога цяпер не прадбачыцца. І будзьце асцярожныя, заўсёды майце запасныя варыянты.



**ДЗЕВА.** Планы на гэтых днях, каб яны ажыццявіліся, павінны быць рэалістычнымі. Не варта лунаць у аблоках і хацець усяго і адразу.



**ШАЛІ.** Каб атрымаць перамогу, вам неабходна ацаніць сябе і ўсе свае матывы справядліва. Бо самы галоўны вораг – вы самі. Вы ставіце ўсё пад сумненне, не верыце ў свае сілы і здольнасці. Паверце ў сябе, і шлях да поспеху будзе нашмат прасцейшы.

**СКАРПІЁН.** Можаце займацца ўсім, што толькі не прыйдзе ў галаву, бо наведаюць вас пераважна думкі карысныя і своечасовыя, якія вы зможаце выкарыстаць у інтарэсах усялякай работы. Нядрэнна было б папрацаваць са сваёй падсвядомасцю, дамаўляцца з унутраным я і шукаць матывацыю ўнутры сябе.

**СТРАЛЕЦ.** Удачны збег абставін выведзе вас на кантакт з патрэбнымі людзьмі. Не адмятайце магчымасці, якія не прыносяць вялікага прыбытку цяпер – вельмі магчыма, яны прынясуць немалыя дывідэнды потым. І не нервуйцеся па дробязях.

**КАЗЯРОГ.** Давайце дзецям больш свабоды, няхай робяць памылкі. Не завальвайце іх парадамі. Паважайце ў дзіцяці асобу.

**ВАДАЛЕЙ.** Гэтыя дні дазволяць вам зацвердзіцца ў грамадстве, замацаваць свой статус, а таксама палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. У гэты час адкрываюцца перспектывы для далейшых дзеянняў, але прыйдзецца прыкласці нямала і сваіх намаганняў, або знайсці спосаб, як прыкласці намаганні іншых людзей на карысць сабе. Неабходна ўважліва ставіцца да захавання нормаў закона і нормаў прыстойнасці таксама.

**РЫБЫ.** Вы схільныя залішне драматычна ўспрымаць падзеі, якія адбываюцца вакол вас, але як бы там ні было, вашы справы ідуць на папраўку. Ваша становішча будзе паляпшацца, і вы зможаце адчуць у сабе новыя сілы для руху наперад. Шчасце ўжо не за гарамі, таму скідвайце налёт апатыі і пачынайце рухацца наперад.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 2 | 9 | | | | 3 |
| | | | | | 1 | 4 | | 6 |
| | 2 | | | 4 | 5 | | 7 | |
| | | | 1 | | 4 | 8 | 6 | |
| 5 | | | 8 | 2 | | | 4 | |
| | | 8 | | | 9 | | | 2 |
| | | | 9 | | | 7 | 3 | |
| | | | 5 | 1 | | | 9 | |
| | | | | 3 | 7 | 6 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. “**Тайна вострава людаедаў**” (пірацкі трылер у адной дзеі) 8+, Дамір Салімзянаў

13 лютага – у 11:00

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ'ЕРА. “**Дыягназ-каханне!**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Андрэй Максімаў*

2 лютага – у 19:00

**“Камедыя”** 12+ (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча), *Уладзімір Рудаў*

7 лютага – у 19:00

“**Любоў па-італьянску**” 16+ (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э. дэ Філіпа “Цыліндр”), *Эдуарда дэ Філіпа*

10 лютага – у 17:00

“**Псіхааналітык для псіхааналітыка**” 16+ (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*

13 лютага – у 19:00

Прэм'ера. “**Дырыжор**” 16+ (монадрама ў адной дзеі), *Лявон Агулянскі*

16 лютага – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. “**Прыгажуні**” 16+ (амерыканская камедыя ў 2-х дзеях), *Айван Менчэл*

22 лютага – у 19:00

**ГАСТРОЛІ СЛОНІМСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

“**Шчаўкунчык**” 3+ (музычная казка для дзяцей па матывах казкі Э.Т.А.Гофмана)

24 лютага – у 11:00 і 13:00

“**Тарас на Парнасе**” 12+ (народная забава з мядзведзем у 2-х дзеях), *Сяргей Кавалёў*

24 лютага – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. “**Ну, вы даяце**” 16+ (камедыя па матывах сучаснай драматургіі)

28 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

“**Доктар Айбаліт**” (казка-прыгода) У. Карастылёў (бел.)

4 лютага - у 12:00

“**Тры парсючкі**” (музычная казка) І. Сідарук (бел.)

11 лютага - у 12:00

“**Снежная каралева**” (чароўная казка) Г. Х. Андэрсэн (рус.)

25 лютага - у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**. УНП 600136804

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 3 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +1 | | -1 / 0 | | -1 / -2 | | -4 / -3 | |
| | 734 | → 2 | 727 | ↙ 5 | 726 | ↙ 8 | 735 | → 8 |
| Вільня | 0 / +1 | | 0 / +1 | | -1 / -2 | | -3 / -3 | |
| | 750 | ↗ 4 | 735 | ↙ 2 | 736 | ↘ 8 | 742 | ↘ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 8.56
Захад 17.56
Даўжыня дня 9.00

Усход 13.42
Захад 4.38
Квадра 2

| Горад | Тэмпература | | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | -2 | -0 | 737 | ← 2 |
| Гродна | 0 | +2 | 738 | ↓ 2 |
| Мінск | -1 | 0 | 727 | ↙ 5 |
| Магілёў | -1 | +1 | 734 | ↖ 4 |
| Брэст | +2 | +2 | 735 | ↓ 4 |
| Гомель | +1 | +3 | 736 | ↖ 5 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -29,4 °С у 2012 годзе
Максімальная тэмпература +8,4 °С у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,2 мм у 2013 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

- У старэйшую школу ў Маладзечне, СШ №1, на вечар сустрэчы прыходзяць выпускнікі, якія скончылі школу 20, 25, 30 і нават 50 гадоў таму. Нам стала цікава, што ж цягне дарослых, а можа, нават і сталых ужо людзей у сваю школу? Адказ праз тыдзень у "РГ".



## Выразай, запаўняй, дасылай: працягваем акцыю "Дзясятачка"

**Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.**

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by:
rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№5)

1. Імя, прозвішча__________
2. Дата нараджэння __________
3. Клас
Школа__________
4. Населены пункт__________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака __________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі __________
9. Імя, імя па бацьку __________
10. Прозвішча настаўніка __________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________
12. Подпіс настаўніка__________

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

# Назавіце ваша любімае месца на Вілейшчыне



**Святлана Мацукевіч, педагог-арганізатар:**
– Каледж, дзе я працую. На працы шмат часу праводжу тут. І ў вольны час бываю часта: ваджу дзяцей у цырульню ці проста гуляем.



**Валерыя Пяркоўская, навучэнка:**
– Люблю ўрочышча Дубаўка. Там прыгожая прырода і свежае паветра.



**Андрэй Дударчык, дырэктар кінатэатра:**
– Бацькоўскі дом. Высокі бераг ля вёскі Чырвоны Беражок, куды ездзілі з сям'ёй, калі жылі ў кватэры. А як з'явіўся ўласны дом, то лепшага месца і не ведаю.



**Ала Дарошка, педагог:**
– Люблю Вілейскае вадасховішча і ўтульны Віллянін хутар.



**Анастасія Цывунэль, навучэнка:**
– Парк. Там ёсць, дзе прысесці, там прыгожыя скульптуры Валерыя Апарыка. У парку часта гуляю з сяброўкамі.



**Андрэй Фралоў, работнік культуры:**
– Ведаеце, ззаду гарадскога парку ёсць драўляны памост і прыступкі да Віліі. Вось тое месца вельмі люблю. Асабліва снежнай зімой і ў сонечны летні дзень.



**Вікторыя Свячко, майстар:**
– Я не мясцовая, прыехала на адпрацоўку. Сама з Ліды. Але ўжо паспела палюбіць Віллянін хутар за яго ўтульнасць і прыгажосць.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№5 (1188) 2.02.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 116. Падпісана ў друк у 9.00 1.02.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.